

Свята на Плянтах → 3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714



Па Дону гуляе → 9

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 25 (3032) Год LIX | Беласток, 22 чэрвеня 2014 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

**Падчас дзесятага Беларускага этнаграфічнага фестывалю «Культура на сходах музея», які 8 чэрвеня адбыўся на плошчы Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы, прэзентаваліся вырабы майстроў рукадзелля, можна было спрабаваць выканаць такія вырабы пад наглядам вопытных майстроў. Прагучала многа беларускіх песень, можна было танцаваць побач сцэны. Паколькі мерапрыемства адбывалася ад абеду ажно да вечара, частка публікі мянялася. Калі апошнім запрэзентаваўся беларускі рок-гурт «Relikt» з Мінска, большасць публікі састаўлялі ўжо маладыя людзі, якія чакалі выступу вядомага ім калектыву (у мінулым годзе «Relikt» заняў першае месца і здабыў прызнанне публікі падчас гайнаўскага рок-фестывалю «Ракавіска»).**



«Гарадніца» з Гродна

# Юбілей «Культуры на сходах музея»



Першапачаткова Музей і асяродак беларускай культуры ў Гайнаўцы арганізаваў цыкл беларускіх этнаграфічных фэстаў пад назвай «Культура на сходах музея». Калі было спрыяльнае надвор'е, народныя творцы прэзентавалі свае вырабы побач музейнага будынка і там паказалі падставы сваёй працы, а музычныя калектывы выступалі на сходах музея.

— Гэта Міхась Андрасюк з Гайнаўкі сказаў, што добра было б, каб Беларускі музей выйшаў з прапанoвай па-за будынак. Мы з Тамашам Ціханюком сталі арганізаваць этнаграфічныя фэсты «Культура на сходах музея». Спачатку мы наладзілі фэст ільняной кашулі — пачынаючы ад апрацоўкі льну, паказалі мы цэлы працэс яе выканання. Пазней былі этнаграфічныя фэсты «Сонца ў саломцы», «Не святыя гаршкі лепяць», «Свята беларускага хлеба», «Сто твараў лазы» і «Бульбафэст», — сказала Наталля Герасімюк, былая бібліятэкарка Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы.

Этнаграфічныя фэсты арганізаваліся звыш пяці гадоў пад наглядам тадышняга дырэктара Гайнаўскага белмузея Яна Карпюка. Тамаш Ціханюк быў тады працаўніком музея, адказным за культурную дзейнасць. Стаўшы дырэктарам белмузея, Тамаш Ціханюк аб'яднаў паасобныя фэсты ў Беларускі этнаграфічны фестываль «Культура на сходах музея».

— Трэба ісці ўперад. Мы рашыліся аб'яднаць фэсты ў адно мерапрыемства і назваць яго фестывалем, каб павысіць яго ранг і прыцягнуць больш людзей на прымузейную плошчу. Публіцы прапануем розныя атракцыёны. Сёння ўдзельнікі этнаграфічнага фестывалю «Культура на сходах музея» могуць паслухаць музыку, паглядзець вырабы народных творцаў і паспрабаваць іх выконваць. Даем магчымасць папрацаваць за кроснамі ці за ганчарным колам. Можна пад наглядам вопытных майстроў паспрабаваць сплесці выраб з саломы, пачаць вырэзваць у дрэве і пакаштаваць бульбяныя стравы. Прапануем таксама купляць рукадзелле і беларускую літаратуру, — сказаў Тамаш Ціханюк, дырэктар Гайнаўскага белмузея.

Дзеткі, а нават і дарослыя, працавалі за ганчарным колам, выконвалі сувеніры з гліны. Ганчарнаму рамяству вучыў Міраслаў Пяхоўскі з Чорнай-Всі-Касцельнай. Працаваць за кроснамі вучыла Ірэна Ігнацюк з Ляўкова і да яе таксама цісну́ліся дзеткі.

— Ткаць я тут не навучу, але дзеткі маюць магчымасць працягнуць нітку і стукнуць кроснамі. Стук кроснаў хіба пакідае ў наймалодшых самыя вялікія ўражанні, — сказала Ірэна Ігнацюк.

Саломапляценню вучылі жанчыны з Гродна. Яны таксама прапанавалі купляць сувеніры. Беларускую літаратуру і вырабы з тканін з беларускімі матывамі можна было купіць у музейнай краме. Падчас фестывалю прадаваліся дзіцячыя цацкі і ласункі.

— Цікавай прапановай з'яўляецца праца ў драўніне, якой вучыць Ян Кічкайла з Барысаўкі. Зацікаўленнем карыстаецца гульня ў жывыя кросны, калі адны дзеці трымаюць ніткі, а іншыя пераплятаюць ніткі паміж імі, — сказала Агнешка Ціханюк з Гайнаўскага белмузея.

Гульня ў кросны дапамагла зразумець прынцыпы ткання. Арганізаваў яе гайнаўскі фонд «Яны — гэта мы». Прадстаўнікі фонду і бацькі дапамагалі яшчэ дзеткам размалёўваць экалагічныя сумкі. Чарга выстраілася да бульбяных страў і да Уладзіміра Ціханюка, які частаваў свойскай каўбасой і вэнджаным бачком.

Перад публікай з беларускім рэпертуарам запрэзентаваліся дзяўчаты са Студыі песні Гайнаўскага дома культуры. Удала пабеларуску выступілі калектывы «Жаваранкі» з Махнатага і «Хутар» з Гарадка ды гурт «Гай» з Беластока. Падчас фестывалю з беларускімі песнямі мелі магчымасць выступіць дзеткі, што вучацца беларускай мове ў Школьна-дашкольным комплексе ў Белавежы, якіх падрыхтавала настаўніца беларускай мовы Анджаліна Масальская.

— Дзеткі з калектыву «Сунічкі» з класаў I-III і з вакальнага калектыву з класаў IV-VI — ахвотныя да выступаў. Прэзентаваліся яны ўжо ў школе падчас конкурсу беларускай песні. Сёння мелі магчымасць выступіць перад вялікай публікай. Гэта для іх вылучэнне і новы вопыт, — сказала Анджаліна Масальская аб белавежскіх вучнях.

Зоркамі фестывалю былі калектывы з Беларусі — народны ансамбль беларускай песні «Гарадніца» з Гродна і рок-гурт **«Relikt»** з Мінска.

— Мы пазнаёміліся з Томкам Ціханюком, калі першы раз выступалі на «Бардаўскай восені». Завязалася ў нас сяброўства і на фестываль прыехалі мы спецыяльна па запрашэнні Томка. У мінулым годзе здабылі мы першае месца і ўзнагароду публікі на гайнаўскім рок-фестывалі «Ракавіска», — сказаў Зміцер Наркевіч з гурту **«Relikt»**.

— Публіка ў Гайнаўцы і на ўсёй Беласточчыне прымае нас вельмі цёпла. Нам тут выступаецца вельмі добра, — заявіў лідар гурту **«Relikt»** Аляксандр Дземідзенка. — Паколькі сёння этнаграфічнае мерапрыемства, мы падрыхтавалі спецыяльную акустычную праграму, апрацаваныя народныя песні і нашыя аўтарскія творы.

— Я першы раз пачула рок-гурт **«Relikt»** у музеі і вельмі спадабаўся мне іх выступ на «Ракавіску». Сюды прыйшла паслухаць музыку **«Relikta»**, бо ў Гайнаўцы рэдка выступаюць так добрыя рок-гурты, — сказала маладая гайнавянка.

Цікавы беларускі рэпертуар запрэзентавалі калектывы «Арт-Пронар» і «Нарва» з Нарвы, а таксама «Дэкада-Банд» з Беластока.

— Мы вельмі ахвотна выступаем на мерапрыемствах, якія ладзіць Беларускі музей. Тут добрая арганізацыя. Мы вельмі задаволены, што публіка цёплая і сардэчна нас прымае. Радуе, калі людзі падыходзяць і віншуюць з удалым выступам, — гаварыў кіраўнік калектыву «Арт-Пронар» Ян Снарскі.

— Мы рады, што з кожным годам на фестывалі «Культура на сходах музея» збіраецца штораз больш публікі, якая так добра ўспрымае выканаўцаў. Бачым, што людзі цікавяцца працай народных творцаў і таму патрэбнае такое мерапрыемства, — сказалі вядучыя фестываль Паўліна Паўлючук-Коська і Мар'еля Герман, якая выступіла ў складзе калектыву «Арт-Пронар».

Фестываль Гайнаўскі белмузей мог наладзіць дзякуючы фінансавай падтрымцы Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі і Гарадской управы Гайнаўкі, а партнёрамі мерапрыемства выступілі Культурны цэнтр Беларусі пры Пасольстве РБ у Польшчы, Гайнаўскі дом культуры і Управа Нараўчанскай гміны.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**





# Гульня ў псеўдапалітыку

Палітыка Крамля ў адносінах да Украіны пачала прыносіць чаканыя ў расійскім кіраўніцтве вынікі. Мільённыя аўдыторыі тэлегледачоў ва ўсім свеце больш не ўспрымаюць падзеі на Украіне як нешта сенсацыйнае і небяспечнае для ўсёй планеты. Пачуццё самазахавання прытупілася. А ўслед за сваімі выбарцамі і тыя людзі, ад якіх залежыць прыняцце рашэнняў, збольшага пачалі абмяжоўвацца пустымі заявамі, што Украіну ніхто не кіне.

Чаго вартыя такія заявы, калі паралельна з імі гучаць загульванні з Крамлём у выглядзе розных рэверансаў, такіх як асуджэнне ўкраінскіх улад за напад на расійскую амбасаду ў Кіеве ўзмоцненае патрабаваннямі прыняць нейкія там меры. І гэта адбываецца ў той самы час, калі з расійскай зброі масавага знішчэння людзей, такой як сістэма залпавага агню „Град", абстрэльваюцца ўкраінскія гарады, збіваюцца ўкраінскія самалёты, топчуць украінскую зямлю чужацкія танкі...

Калі такую занепакоенасць праяўляе беларуская ўлада, то ёй можна проста нагадаць, што яна разрывала дыпламатычныя адносіны нават за так званую бамбардзіроўку звычайнымі плюшавымі цацкамі. І гэта пры тым, што ўлады той краіны пра гэтых бяскрыўдных дэсантнікаў-мядзведзікаў нічога не ведалі. А вось як можна ўспрыняць падобную занепакоенасць з амерыканскага боку, як не спробу прагнуцца перад Крамлём і задэкляраваць сваю псеўдааб'ектыўнасць у разуменні падзей на Украіне. А псеўдааб'ектыўнасць гэта і ёсць галоўны складнік псеўдапалітыкі.

Зрэшты, зараз палітыка ў свеце з яе двайнымі стандартамі настолькі незразумелая, што калі падыходзіць да яе з лагічнымі разважаннямі, то можна мазгі звіхнуць. Бо паўстае ў гэтай сітуацыі адно лагічнае пытанне: што ўвогуле ў Кіеве робіць расійская амбасада? Ці не Расія адцяпала цэлы кавалак украінскай тэрыторыі? Ці не яна падтрымлівае вайну на яе другім кавалку? Ці можа не расійскія палітыкі найвышэйшага рангу адкрыта заяўляюць, што Украіна як дзяржава гэта памылка? Ці не яны робяць заявы і прапановы іншым краінам пра яе раздзел, ганьбяць украінскія сімвалы, адкрыта заяўляюць пра абавязковае далучэнне ў склад Расійскай Федэрацыі самога Кіева, бацькі гарадоў рускіх? Дык што ж пасля гэтага ў Кіеве робіць расійская амбасада?

Недзе льецца людская кроў, а ў гэты час працягваюцца перамовы па газе. Аказваецца, не могуць зысціся па кошце. А што як зыдуцца? Што з той крывёй? Колькі яна каштуе? За гэта яна льецца? Няўжо цяжка адказаць на некалькі пытанняў: Адбылася анексія расійскімі войскамі Крыма ці не? Вядзе Крэмль вайну супраць Украіны ці не? Калі вядзе, то якія могуць быць амбасады? Тады пра перамір'е і метады вайны, пра ўмовы здачы і абмену ваеннапалоннымі мусяць дамаўляцца генералы, а не амбасадары, бо ваякі больш простая публіка. І калі яны ваююць, то ганарацца гэтым, хочуць атрымліваць узнагароды і павагу за сваю самаахвярнасць. А яшчэ вельмі хочуць каб вайна як хутчэй скончылася. І калі вайна ідзе, то тады не плаціцца грошы ні за газ, ні за іншую прадукцыю краіне, якая на гэтыя грошы ўзбройвае войска, бо гэта называецца здрадай. Тады няма, і быць не можа аніякіх амбасадаў ні на тэрыторыі ворага, ні амбасадаў ворага на сваёй зямлі.

Свет узіраецца, як гінуць масава людзі, а амбасады стаяць, гандаль працягваецца, кошты на газ удакладняюцца, гульня ў псеўдапалітыку набывае садамазахісцкі характар. Упэўненасць у сваёй непераможнасці і беспакаранасці ў Крамля расце паралельна з усталяваннем шавіністычнай ідэалогіі. Жаданне далучыць да Расійскай Федэрацыі Кіеў перарастае ва ўпэўненасць, што па-іншаму і быць не можа. А ў дадатак і Менск, і Тбілісі... Хапае яшчэ што далучаць. Незваротная мяжа ўжо пройдзена. Калі Крэмль спыніцца, яго ўжо не зразумеюць у сябе. Ён стаў заложнікам сваёй жа палітыкі і прапаганды. Ён спыніцца не можа сам. І калі свет зараз не адумаецца, тэрмінова не перастане гуляць у псеўдапалітыку, амбасады і кошты на газ, то наступствы гэтай бесхрыбетнасці і палітычнай блізарукасці будуць жахлівымі.

**Віктар САЗОНАЎ**



# Голая с...ка

Чарговы скандал на самым высокім узроўні ўлады пасля апублікавання аўдыязапісу ясна даказвае, што польская дзяржава ўжо даўно трапіла ў павуціне. Цікава, што гэта за павук пляце свае ліпкія ніткі інтрыг, падставак, здрады і паклёпу? Паняволеная імі Дзяржава ўсё менш і менш бэікае, даючы ўладу перасвараным палітычным партыям, сеймавым дактрынёрам, адчужанаму правасуддзю, авантурным спецслужбам, бяздарным паліцыі і арміі, а таксама, што прыкра сказаць, закулісным маніпуляцыям Каталіцкага касцёла, які, здаецца, мае сваё бачанне дзяржавы ў Дзяржаве. Карацей кажучы, яна ледзь дыхае. Сам міністр унутраных спраў Сянкевіч прызнаў — важная фіша сярод міністраў ва ўрадзе Туска і ў той жа час ахвяра падслухвальнага скандалу — у размове з другой ахвярай, старшынёю Нацбанка Бэлькам, запэўніваючы яго, што польская краіна, з практычнага пункту гледжання, дабзычалася да свайго перадсмяротнага становішча. Хоць, ці гэта магчыма, каб на яе ўпадак працаваў толькі адзін павук? І гэта на працягу многіх гадоў. Пра што як пра што, але пра тыя падслухвальныя інтрыгі пры ўсіх польскіх урадах, ад урада да міністраў, чуем з частатой невядомай у любым пункце свету. Праз кожныя некалькі месяцаў выбухае зноў, нават больш каварная чым папярэдняя. Ужо на ***Rywingate*** павінны былі сканцэнтравацца ўсе палітычныя і грамадскія сілы для ачысткі Дзяржавы з гэтых ідэалагічных нарасцей, карпаратыўных шлакаў, мафіёзнага палітыканства. На жаль, канчалася ўсё на касметычным ліфтынгу. Дэпутаты бурыліся, падавалі гарачыя запыты, стваралі парламенцкія камісіі па расследаванні, рухаўся карусель пасад, хтосьці губляў сваю ўзурпаваную ўладу, хтосьці трапляў у турму... Так здаралася, што кіруючая партыя адыходзіла ў няміласці ў парламенцкую апазіцыю, яе месца займала іншая, поўная рэфармісцкай старанніасці, якая, аднак, паступова згасала ў меру часу і сціхання грамадзянскай прастрацыі. Неўзабаве ўсё вярталася да старых парадкаў. Дзяржава кульгала ўсё больш, і больш грамадзян менш любіла ўласную дзяржаву. Палітычная эліта абрастала ўсё большым панцырам ад грамадскай крытыкі, а грамадства ўсё больш грэбліва адносілася да палітычнага істэблішменту. Узмацнілася ў ім абыякавасць у дачыненні да свае краіны. Нездарма ж, у рэшце рэшт, улічваючы, што сёння невядома, якія сілы кіруюць Польшчай, а якія стаяць у крытычнай, але канструктыўнай апазіцыі да іх. Не разлічыліся ні з адной аферай да канца. Ці палітычнай, ці эканамічнай. Ані судовай або адміністрацыйнай. Горш таго, лік інстытуцыянальных памылак, якія прыводзяць да шкоды грамадства, павялічваецца з году ў год. І з пагрозлівай хуткасцю. Я кажу пра ахвяры неабдуманасці суддзяў і пракурораў, чыноўнікаў падаткавай інспекцыі, ЗУС і НФЗ. Я кажу пра сотні тысяч пакрыўджаных грамадзян.

Я пісаў шмат разоў аб інваліднасці польскай дзяржавы, спарахненні яе найважнейшых інстытутаў. Я прызнаюся, што не атрымаў ніякага задавальнення ад гэтага. Прызнаюся, нават я быў злосны на сябе, што я быў злосны на маю дзяржаву. Таму што столькі непатрэбна напсаваў сабе крыві, і, дарэчы, таксама чытачам «Нівы». Без сумневу, што кожны з нас, грамадзян польскай дзяржавы, бачыць на працягу многіх гадоў, як пажырае яе рак палітычнай і маральнай карупцыі. Пра гэтую, разлічваную ў залатоўках, ужо не скажу. Не ўсе палітыкі прагныя вырадкі, у рэшце рэшт не ўсе дэпутаты прадажныя дурні, не ўсе чыноўнікі бяздушная свалата. Мабыць, гэтых сапраўды дрэнных, рэнегацкіх усяго нязначная колькасць. І калі так, то як гэта магчыма, што справядлівая большасць з іх падвяргаецца злому прыкладу невуцтва бюракратаў, бясплоддзя дэпутатаў, партыйнай балбатні і грамадзянскай інерцыі?

Няхай толькі гэтае апошняе (не скажу, што недраматычнае) пытанне хопіць на разынычку гэтага фельетона. Толькі што кожная канцоўка мае два прычынныя варыянты. Або адкрывае тое, што схаванае, азорваючы голым фактам, або бянтэжыць яе галізной, як... голы азадак на шыкоўным прыёме. За занадта рэзкае параўнанне, усё ж, я не буду прасіць прабачэння ў чытачоў. Навошта гаварыць намёкамі, польская дзяржава ўжо даўно голая, як кароль у Андэрсенавай казцы. Тым не менш, ніхто гэтага не хоча прыкмеціць.

**Міраслаў ГРЫКА**



Вачыма еўрапейца

# Другі «Усход культуры»

Ужо вядома: другое выданне фестывалю «Усход Культуры — Іншае вымярэнне» ў Беластоку адбудзецца 28-31 жніўня 2014 г. Праграму фестывалю, як і ў 2013 г., суствараюць гарадскія і ваяводскія ўстановы культуры, няўрадавыя арганізацыі і асобныя мастакі. Як сцвярджаюць працаўнікі арганізатара мерапрыемства — Беластоцкага цэнтра культуры (БОК), на фестывалі, падобна да леташняга, адбудзецца прэзентацыя розных галін мастацтва. Аднак у гэтым годзе праграма засяроджваецца, галоўным чынам, вакол музыкі, танца і жывапісача сучаснага мастацтва. Плануюцца, між іншым, музычна-танцавальна-тэатральнае відовішча ў гарадской прасторы, канцэрты пад адкрытым небам, клубныя канцэрты электроннай музыкі і вялікі праект у галіне сучаснага мастацтва з мастакамі з краін Усходняга партнёрства, Расіі і Польшчы. Будзе дастаткова таксама тэатральных прэм'ер, фільмаў (кінатэатр «Суседзі»), анімацыі для дзяцей ці дзеянняў накіраваных на дарослага атрымальніка (між іншым адукацыйныя прагулкі, кулінарнае шоў). Працягваць таксама будуць дзеянні ў галіне моды.

У 2013 годзе фестываль асабліва прадстаўляў татарскую культуру. У гэтым годзе «Іншае вымярэнне» будзе прысвечана беларусам. Як адзначаюць арганізатары, «у планах ёсць паказанне багацця гэтай культуры ў нашым рэгіёне і ў сучаснай Беларусі (дыскусіі, выставы фатаграфій, дакументальны фільм). У гэтым годзе фестываль на Падляшшы мае выйсці за межы Беластока».

Нагадаю, што «Усход культуры» з'яўляецца новай формай культурнага супрацоўніцтва гарадоў усходняй Польшчы з краінамі Усходняга партнёрства (Арменія, Азербайджан, Беларусь, Грузія, Малдова, Украіна). Упершыню ў такім маштабе тры гарады — Беласток, Люблін, Жэшаў адкрываюць новыя магчымасці для супрацоўніцтва асяроддзяў, для цыркуляцыі культуры праз межы, мастацкага і культурнага абмену, мабільнасці мастакоў і твораў. Праект быў распрацаваны дзякуючы ўдзелу творчых асяроддзяў і самаўрадаў усходняй Польшчы, Міністэрства культуры і нацыянальнай спадчыны і Нацыянальнага цэнтра культуры.

«Усход культуры» з'яўляецца расшырэннем праекта «Еўрапейскі стадыён культуры», які, у сувязі з падрыхтоўкай да Еўра-2012, быў праведзены ў 2011-2012 гадах у Жэшаве і ў 2012 годзе ў Любліне. З прадпасылкі МКіНС, «місіяй „Усходу культуры" з'яўляецца развіццё гарадоў, шляхам культурнага супрацоўніцтва з краінамі Усходняга партнёрства, а таксама паглыбленне супрацоўніцтва паміж гарадамі ўсходняй Польшчы для таго, каб стварыць агульныя, смелыя і мультыкультурныя праграмы».

Сёлетні «Усход культуры» адкрыецца 26 чэрвеня ў Жэшаве (у Любліне пачнецца 8 ліпеня). Падчас прэс-канферэнцыі, прысвечанай падзеі, міністр культуры Багдан Здраеўскі звярнуў увагу на культурнаставальную ролю фестывалю: «Стварэнне платформы ўзаемаразумення і зносін на найбольш універсальнай мове свету, якой з'яўляецца мастацтва, было адной з маіх галоўных мэт, калі мы пачалі гэты праект, усё яшчэ пад назвай „Еўрапейскі стадыён культуры". Гэтая ініцыятыва, аднак, хаця запушчаная з нагоды Еўра - 2012, з самага пачатку мела мець цыклічны характар, і я рады бачыць як на працягу апошніх некалькіх гадоў яна разрастаецца, прыцягвае ўсё больш і больш наведвальнікаў і мастакоў з усяго свету».

Сярод беларускіх матываў у праграме фестывалю ў гэтым годзе апынуцца, у прыватнасці, семінары, круглы стол і вялікая выстава, у якой возьмуць удзел беларускія мастакі ў рамках праекта «Пазбаўленне» (галерэя Арсенал), канцэрт: «Ля мяжы» з гуртом «Стары Ольса» і з аркестрам згуртавання АБ-БА, дэбата «Станіслаў Булак-Балаховіч — военачальнік ці герой», сустрэчы з беларускімі рэжысёрамі Вольгай Дашук і Віктарам Аслюком, адкрыццё выставы «Альбом», дэбаты ў дзвюх частках аб сучаснай Беларусі «Беларускі міф» (арганізатары: Цэнтр грамадзянскай адукацыі Польшча — Беларусь, Фонд Віла Сакрата), прэм'ера дакументальнага фільма «Беларуская дыялекты Падляшша (Згуртаванне АБ-БА), а Фонд Віла Сакрата мае арганізаваць у галерэі «Крынкі» выставу аднаго з самых вядомых сучасных польскіх мастакоў Міраслава Балкі.

Уваход на ўсе мерапрыемствы вольны. Я думаю, што зараз, рабіўшы планы на канікулы, трэба ў іх уключыць удзел у фестывалі «Усход Культуры — Іншае вымярэнне», дарэчы, не толькі ў беластоцкай яго частцы, але і ў Любліне ды Жэшаве, а дэталёва пра ўсё можна даведацца на сайце www.wschodkultury.eu.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Свята на Плянтах

**Больш за трыццаць калектываў і асобных выканаўцаў выступілі 8 чэрвеня ў беластоцкім парку Плянты ў час сёлетняга дваццаць дзевятага Свята беларускай культуры. Кожны прадставіў адну песню. У гэтым годзе натоўпы гледачоў і слухачоў мелі магчымасць палюбавацца маладымі пераможцамі школьнага конкурсу «Беларуская песня». Быў таксама кірмаш рукадзелля, а падляшскія беларускія пісьменнікі рэкамендавалі свае кнігі. Госцем з Беларусі быў ансамбль песні і танца «Спадчына» з Маладзечна, які дзейнічае ў тамашнім палацы культуры.**







Канцэрт традыцыйна адкрыла песня-гімн «Мой беластоцкі край» (завяршыла «Люблю наш край», выкананая ўсімі ўдзельнікамі). Ян Сычэўскі, старшыня Беларускага грамадска-культурнага таварыства, вітаючы на сёлетнім свяце (БГКТ, як і кожны год, было яго арганізатарам), сказаў:

— Свята беларускай культуры мае сваю вялікую асаблівасць. Гэта падвядзенне гадавых дасягненняў беларускага аматарскага руху ў Польшчы, а таксама іншых галін нашай нацыянальнай культуры. Апрача выканаўцаў, якія выступаюць на сцэне, побач знаходзяцца народныя майстры, паэты, пісьменнікі — стваральнікі нашай беларускай культуры ў Польшчы.

Старшыня Сычэўскі зачытаў ліст ад амбасадара Беларусі ў Польшчы Аляксандра Авяр'янава. За сталамі непадалёк сцэны сярод народных мастакоў была Галіна Бірыцкая з Плянты Нараўчанскай гміны:

— Паказваю тут ручнікі і іконы, вышытыя крыжыкам, а іншыя — гладдзю. Некаторыя мае працы былі ўзнагароджаны на конкурсе ў Гайнаўскім доме культуры. Узоры я брала дагэтуль з розных часопісаў, але цяпер іх вынаходжваю сама. Іконы вышываюцца даўжэй. Адну з тых, што тут паказваю, я рабіла два з паловай месяца. Я не люблю хадзіць па крамах, туды-сюды, плёткі рабіць. Змагаюся са стрэсам гэтай працай. Зараз амаль лета ў агародзе, то хоць з гадзінку там сяду і вышываю.

У групы пісьменнікаў аўтографы на сваіх кнігах раздавала Міра Лукша. Пасля калектыў «Оморфос» з Сямятыч праспяваў прэм'ерна песню на яе словы і музыку кіраўніка калектыву Алены Шчыгал.

— Заўсёды вось мы тут, — адзначыла Міра Лукша. — Прыходзяць такія чытачы, якія маюць усе нашы кнігі і пытаюцца пра новыя. Ёсць нават такія, хто мае цэлую бібліятэку кніжак з нашымі аўтографамі. Я на працягу многіх гадоў заўважыла, што калі на фестывалі ёсць стэнд з кнігамі, то людзі найбольш зацікаўленыя ў тым, што новае ў Віктара Шведа. Аб кнігі пытаюцца не толькі беларусы, але і палякі ды замежнікі.

У сваю чаргу Віктар Швед сказаў:

— Кожны год я прысутнічаю на фестывалі і заўсёды некалькі кніг прадам. Гэтыя сустрэчы забавязваюць мяне, каб надалей пісаць і выдаваць. Я сустракаю тут шмат знаёмых і ёсць час, каб, нарэшце, паразмаўляць. Прыемна сустрэць кагосьці, каго не бачыў доўгі час. Чалавек, па меншай меры, не сядзіць у чатырох сценах хаты, выходзіць да людзей. Мне весялей, і я магу падняць настрой іншым сваімі вершамі, таму што ёсць у мяне і вясёлыя, а не толькі сумныя вершы, асабліва для дзяцей.

Затое жыхарка Бельска і спявачка гурту «Маланка» Лідзія Маліноўская, якая нядаўна падмацавала шэрагі Беларускага літаратурнага аб'яднання «Белавежа» і, такім чынам далучылася да шматгадовых членаў літаб'яднання, між іншым якраз Міры Лукшы і Віктара Шведа, прызналася:

— Сустрэчы з чытачамі прыносяць вялікае задавальненне. Прытым надвор'е прыгожае, і можам паслухаць нашых беларускіх калектываў. Я пішу ад нядаўна, так што некаторыя людзі, якіх сустракаю тут, нават здзіўляюцца, убачыўшы мяне ў такой кампаніі.

Пераважная большасць выканаўцаў была вядомая заўсёднікам адной з самых значных падзей БГКТ. Марыя Врублеўская з «Расспяванага Гарадка»:

— Мы прывыклі ўжо да Свята беларускай культуры, якое спачатку праводзілася ў амфітэатры, і зараз некалькі гадоў на Плянтах. Такія адкрытыя, вялікія беларускія імпрэзы ў Беластоку вельмі рэдкія. Мы цешымся кожным выступам тут, тым, што пакажам сябе, на іншых паглядзім. Гэта таксама добра, каб убачыць старых сяброў і наладзіць новыя знаёмствы. Калектывы маюць магчымасць прадставіць новыя песні і новыя твары, так як і мы. Выступы ў Беластоку адрозніваюцца ад тых, што ў малых мясцовасцях. Там людзі больш перажываюць нашы песні, чым у такой вялікай супольнасці, ну, можа інакш.

Ніна Харужая, сяброўка калектыву:

— Выступы ў Беластоку моцна адрозніваюцца, скажам, ад такіх у Гарадку ці ў іншых невялікіх мясцовасцях, дзе ўсе ведаем адзін аднаго, і на такога тыпу прэзентацыях паказваецца менш выканаўцаў.

Люба Гаўрылюк з Козлікаў:

— Першае Свята культуры было ў час ваеннага становішча. Людзі трохі баяліся, але мы з сяброўкай выступілі. Людзі любяць слухаць, дык трэба спяваць. Людзі хочуць нешта сваё, ад сэрца. Ніякае сказанае слова не з'яўляецца заменай для песні.

На ўсіх мерапрыемствах БГКТ, на якіх можа быць, прысутнічае Эдуард Швайко, дырэктар Цэнтра культуры Беларусі ў Варшаве:

— Калі на адной сцэне збіраецца больш за трыццаць беларускіх калектываў, гэта сапраўды свята беларускай культуры. Песня з'яўляецца носьбітам беларускага народа, кожнага народа. Калі хочам пазнаёміцца з такім ці іншым народам, у першую чаргу трэба пазнаць яго фальклор. Адным з найбольш важных элементаў фальклору з'яўляецца песня. Самае галоўнае, што людзі могуць прыйсці сюды, каб слухаць і паглядзець, але і паразмаўляць адзін з адным па-беларуску.

Выступоўцамі таксама захапляўся Тадэвуш Стружэцкі, былы намеснік міністра культуры РБ:

— На гэтым свяце я бываю на працягу многіх гадоў. На маю думку, гэта вельмі важна, што гэтая падзея пашыраецца, што з кожным годам прыязджаюць новыя творчыя калектывы, і кожны год прыязджаюць ансамблі з Беларусі, самыя вядомыя і лепшыя. Самае галоўнае, што гэты фестываль выклікае вялікую цікавасць аўдыторыі, як у гэтым годзе, дзе амаль запаўняе ўвесь парк. Чым больш такіх святаў у Польшчы і ў Беларусі, як тое адбываецца ў нас у той жа час — X Рэспубліканскі фестываль нацыянальных культур, дзе вельмі годна прадстаўляецца польская меншасць, — гэта будзе мець важнае значэнне для нашых краін. Святы мастацтва аб'ядноўваюць людзей, ствараюць добры клімат для ўзаемаадносін у розных накірунках, у тым ліку эканоміцы і палітыцы.



Сёлетнім беларускім спецыяльным госцем свята стаў ансамбль песні і танца «Спадчына» з Маладзечна. Спяваючы ў групе Эдуард Дзедуль сказаў «Ніве» перад выступам:

— Мы падрыхтавалі беларускія песні і танцы пад гэтае свята. Наша каманда адзначыла пяцідзесяцігоддзе летась. Нязменна мастацкім кіраўніком і бацькам ансамбля з'яўляецца заслужаны артыст Беларусі Іосіф Сушко, ганаровы грамадзянін Маладзечна. Гэта наш кіраўнік ад Бога! Ён піша вершы для песень, але таксама выкарыстоўвае тэксты іншых аўтараў. Мы былі ў многіх краінах па ўсім свеце, не палічыць! У працы калектыву прымаюць удзел жыхары нашага горада, ад малых да пенсіянераў. У нас у рэпертуары больш за шэсцьсот песень. Там таксама такая: «Хай снег, хай дождж, хай бездарожжа, не паехаць на кірмаш, як жа гэта можна!?.» А мы кажам: «Хай снег, хай дождж, хай бездарожжа, не прыйсці ў «Спадчыну» — ну як гэта можна!?» Сам я ў групе ўжо 38 гадоў. А ёсць яшчэ старэйшыя. Некаторыя людзі прыходзяць на заняткі цэлымі сем'ямі. Мужы і жонкі не маюць нічога супраць. Мабыць, на пачатку і была нейкая зайздрасць, але калі яны атрымалі квіткі і пагледзелі канцэрт, адказвалі: «А хадзі сабе туды, калі ласка!»

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

## „Цаглінкі” ў Гродне

У Гродне 6-8 чэрвеня г.г. адбыўся X Рэспубліканскі фестываль нацыянальных культур. Адным з яго шматлікіх удзельнікаў быў фальклорны калектыў „Цаглінкі” са Старога Ляўкова. Калі наш калектыў узджаў у Гродна, мы ўбачылі Беларусь — краіну, да якой шчырай любоўю палаюць нашыя сэрцы.

Нам, членам калектыву „Цаглінкі”, здаўна хацелася пабываць і выступіць



з канцэртам на фестывалі нацыянальных культур у старажытным Гродне. Горад вядомы Барысаглебскай царквой на Каложы XII стагоддзя, Старым і Новым замкамі. У горадзе на Нёмане пражывае цяпер 356 тысяч чалавек шматлікіх нацыянальнасцей. Беларусы ў складзе гродзенцаў складаюць пераважную большасць — 63%, за імі ідуць палякі — 20%, затым рускія — 12%, украінцы — 2%, іншыя народы — 3%. Унікальнасць Гродна была прыкмечана яшчэ ў савецкія часы. Тады яно трапіла ў першую катэгорыю гарадоў у рэестры гісторыка-культурных каштоўнасцей.

Падчас фестывалю нацыянальных культур на вуліцы Гродна выйшаў, здавалася, увесь горад. Трэба было бачыць, колькі дзіцячых усмешак асвятлялі наваколле, колькі радасных твараў запальвалася ад іх. Дзеці сталі ўпрыгожаннем святочнага шэсця. Уразілі таксама яго маштаб і разнаколерныя нацыянальныя строі, адценні якіх зіхацелі быццам дыямент. Шматнацыянальнае шэсце з прывітальным словам сустрэлі афіцыйныя асобы. Я з радасцю ўзіраўся ў адухоўленыя твары гродзенцаў і іх гасцей.

Прадстаўнікі шматлікіх нацыянальнасцей на 22 нацыянальных падворках паказалі сваё мастацтва. На працягу трох дзён Гродна, здавалася, не спала. Канцэрты доўжыліся да поўначы, людзей на вуліцы — мора.

На стыльным беларускім нацыянальным падворку паспяхова выступілі стараляўкоўскія „Цаглінкі” (на здымку). Вельмі прыгожа выглядалі нашы спевакі ў нацыянальных сініх касцюмах.

„У Гродне сабралася суквецце талентаў. Такога маштабу фестывалю нацыянальных культур, як у Беларусі, у свеце няма”, — кажуць удзельнікі „Цаглінак”. Сапраўды, гродзенскі фестываль — унікальная з'ява. Яе ўнікальнасць заключаецца, між іншым, у тым, што як арганізатары свята, так і гараджане, вітаючыся, віншавалі адзін аднаго са святам. Нават ад незнаёмых людзей мне давялося пачуць гэтае радаснае вітанне. Дзякую ім усім!

Зразумела, што кожны ўдзельнік гродзенскага фестывалю сваім выступленнем хацеў пацвердзіць, што ён шануе сваю краіну, у якой жыве, і ганарыцца прыналежнасцю да сваёй нацыі. Але для беларусаў Падляшша фестываль нацыянальных культур мае асаблівы сэнс. Культуры не могуць абсалютна зліваццa, бо іх каштоўнасць менавіта ў самабытнасці. Чым больш ёсць магчымасцей для развіцця ўсіх культур, тым больш адметнай побач іх становіцца і беларуская культура, у рэчышчы якой дзейнічаюць і „Цаглінкі”. І яшчэ адно — калі абмяжоўваюцца іншыя культуры, знікае канкурэнцыя і для беларускай. Я заўважыў, што людзі прыехалі на фестываль, так як і стараляўкоўскія „Цаглінкі”, з вялікай натхнёнасцю і называлі яго „святам душы”. У такіх мерапрыемствах, падумалася мне, выяўляецца дзяржаўная ідэалогія, сэнс якой просты: Беларусь — радасны і добры дом для ўсіх культур.

**Тэкст і фота Віктара БУРЫ**

# Дзясяты раз на „Гняздзе”



Барбара Пахольская з новай публікацыяй



Альжбета Ярашэвіч і Марыюш Чабан

Адно з важнейшых, калі не самае важнае, культурнае мерапрыемства Шудзялаўскай гміны адзначыла сваё дзесяцігоддзе. Літаратурны конкурс пра гісторыю рэгіёна «Нашае гняздо» яднае штораз больш прыхільнікаў. Не ідзе тут пра колькасць удзельнікаў. Ахвотных уключыцца ў працэс даследавання і запісу даўніны няшмат. Цешыць аднак, што зацікаўленасць і падтрымка з боку ўлад, дзяржаўных устаноў і прадпрымальнікаў з году ў год пашыраецца. Іх колькасць і важнасць у гэтым мерапрыемстве безумоўна прыкрыла саміх удзельнікаў конкурсу. Дырэктар Асяродка культуры ў Шудзялаве Альжбета Ярашэвіч і войт Шудзялаўскай гміны Марыюш Чабан віталі і дзякавалі за падтрымку перш за ўсё Маршалкоўскай управе Падляшскага ваяводства, Падляшскаму куратару асветы, суарганізатарам мерапрыемства — Ваяводскаму асяродку анімацыі культуры, Рэгіянальнаму аддзелу Касы сялянскага сацыяльнага страхавання (КРУС), Беластоцкаму гістарычнаму музею і Беластоцкаму аддзелу Інстытута нацыянальнай памяці. Віталі таксама прысутнае на мерапрыемстве кіраўніцтва Ландшафтнага парку Кнышынскай пушчы, Крынскае надляснічаства, а таксама ўласнікаў навакольных сельскіх і агратурыстычных прадпрыемстваў.



Марцін Жамойда з войтам (злева) і прадстаўніком КРУС



Рысункі Марціна Жамойды

Старшыня конкурснага журы Барбара Пахольская публічна выказала сваё захапленне арганізатарскімі здольнасцямі Альжбеты Ярашэвіч. «Тыя, што ніколі не здабывалі спонсарскіх грошай, не ведаюць, якая гэта няўдзячная тэма», — сказала да сабраных Барбара Пахольская.

Старшыня конкурснага журы аб'явіла пераможцаў сёлетняга выпуску. Аўтарамі большасці дасланых на конкурс прац былі мясцовыя дзеці. Пры выбары пераможцаў журы ў асноўным звяртала ўвагу на аўтэнтычнасць і самастойнасць дзіцячых прапаноў. Сёлета прыкметнай была тэндэнцыя падрыхтоўкі аповедаў больш у мастацкім плане. Ручныя малюнкі і здымкі з сямейных фотаальбомаў сталі асноўным сродкам пераказу шудзялаўскіх школьнікаў. У сваіх працах прадстаўлялі яны найчасцей бліжэйшую сям'ю. Конкурсная камісія ўзнагародзіла, між іншым, «Кароткі аповед пра шматдзетную сям'ю» Веранікі Марчук — трэцякласніцы з вёскі Дуброва-Мачыдлы. Удзел у конкурсе запрапанавала ёй настаўніца Марыя Гансоўская. Браць інтэрв'ю ў сямейнікаў і весці дакументацыю дапамагала трэцякласніцы старэйшая сястра. На думку Веранікі, збераганне сямейных гісторый — справа важная і патрэбная.

Першакласнік з шудзялаўскай школы Марцін Жамойда надта любіць маляваць.



Барбара Пахольская рэжа торт

За цыкл прыгожых карцінак на тэму «У будучыні стану земляробам» атрымаў ён спецыяльную ўзнагароду ад КРУС. «Мы вядзем сельскую гаспадарку, — прызнаецца нашаму тыднёвіку мама першакласніка Аліна Жамойда. — Тым жывем і нельга было гэтага не апісаць. У нас вялікі статак малочных кароў, трактары. Усё гэта мой сын любіць маляваць».

Сваю згодную сям'ю на здымках і на ўласнаручна намаляваных карцінках пад загалоўкам «Маё сямейнае гняздо» прадставіла мясцовая школьніца Караліна Лазарэвіч. Яе маладыя бацькі — земляробы з Астраўка — з'яўляюцца рэдкім узорам адданасці роднай зямлі, традыцыям і мове продкаў, а перш за ўсё сапраўднай, сямейнай любові. Караліне конкурсная камісія прызначыла першую ўзнагароду.

У конкурсе ўдзельнічалі таксама дарослыя. Уладальніца першага месца ў гэтай катэгорыі Юлія Скепка з Беластока прыехала ў Шудзялава з падаркам. Хрусты, уласнаручна спечаныя паводле старой рэцэптуры, запісанай у конкурснай працы, былі падзякай арганізатарам за цёплы прыём і дабрыню. Шудзялаўскае мерапрыемства спадарыня Скепка спапулярызавала перш за ўсё ў роднай Міхалоўскай гміне. Такім чынам сярод вылучаных апынулася вядомая даследчыца гісторыі Міхалоўскай зямлі Ніна Горбач. Гісторыю чыгункі Беласток — Ваўкавыск увекавечыў у сваёй працы Андрэй Казбяровіч з вёскі Саколе. Юлія Скепка абяцала, што ў наступным выпуску конкурсу будуць удзельнічаць яе сябры з Гайнаўкі.

Раўнапраўная першая ўзнагарода завандравала таксама на Сілезію — у вёску Старае Сяло да Яніны Шымчык за працу «Старое Сяло — карціна з глыбіні сэрца».

У катэгорыі людзей з абмежаванымі магчымасцямі ўзнагароду атрымала белавежанка Лідзія Банька за запрашэнне да стала.

Спецыяльны прыз камісія ўручыла шматгадовай удзельніцы «Нашага гнязда» Барбары Вільчэўскай з Невадніцы-Касцельнай за сагу роду Місевічаў.

Дзясяты юбілейны выпуск конкурсу стаў штуршком для выдання новай публікацыі — «Зборніка легенд Шудзялаўскай гміны». Гэта ўжо чацвёртая кніжка ў гісторыі конкурсу. Невялікі, але надта эфектны альбомік, стаў выдатным падаркам усім удзельнікам мерапрыемства.

У якасці сюрпрызу арганізатары наладзілі бардаўскі канцэрт абітурыенткі Варшаўскай музычнай акадэміі Агнешкі Глінскай. У свой аўтарскі музычны эксперымент уключыла яна шудзялаўскага войта і вучаніц мясцовай школы.

На развітанне ўсе ахвотныя маглі пачаставацца юбілейным тортам.

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**

# На Тройцу ў Ліпінах



Ліпіны — даволі вялікая вёска каля Гайнаўкі (налічвае пад 300 жыхароў). Тут, як нідзе ў іншай вёсцы Гайнаўскай гміны, прыбывае пасяленцаў, якія будуюць сабе новыя дамы. Гэты факт цешыць солтыс сяла Ліпіны Кацярыну Якубоўскую (яна родам з Трасцянкі, у тамашняй пачатковай школе вучыла яе і прывівала любоў да роднай мовы Галена Тапалянская і яна — як сказала мне — вельмі паважае і цэніць сваю настаўніцу, трымае з ёю пастаянны кантакт).

У сяле прыгожая святліца. Побач яе — пляцоўка з брусчаткі для культурна-забаўляльных мерапрыемстваў, абсаджаная наўкруг 18 бярозамі, новая спартыўная пляцоўка для футбола, пляцоўка для дзіцячых гульняў з розным абсталяваннем, у тым ліку з гойданкамі, ды жоўты чысты пясок як на марскім пляжы.

Усё гэта ды сёлетні беларускі фэст і народны абрад — заслуга актыўных членаў ліпінскага Таварыства „Крыніца", якое ўзначальвае солтыс Кацярына Якубоўская. Заснавалі яго ў красавіку 2013 года і цяпер у ім дзейнічае 24 чалавекі. Мае яно цікавыя накірункі культурна-асветнай і забаўляльнай дзейнасці. Усё з мэтай, каб перш-наперш зберагчы мову і традыцыі нашых дзядоў і прадзедаў. Членамі „Крыніцы" з'яўляюцца жыхары не толькі Ліпін, але і Гайнаўкі, Старога і Новага Беразова ды Белавежы.

Пасля абеду ў цёплую сонечную нядзелю, 8 чэрвеня г.г., у Ліпінах арганізавалі беларускі народны фэст, прымеркаваны да святкавання Тройцы, і выступ з траецкім абрадам „Куста". Святліцу звонку і танцавальную пляцоўку ўмаілі вельмі пахучым язмінам.

Дарафей Фіёнік, які кіруе Музеем малой Айчыны ў Студзіводах, прывёз на фэст палескі фальклорны калектыў „Чабатухі" са Сташава і жаночае трыо з Дзятлавіч каля Лунінца (Рэспубліка Беларусь) ды калектыў „Жэмэрва" са Студзіводаў. На мерапрыемства быў запрошаны дуэт Маня і Ваня (Марыя Юрчук з Дубін і Янка Шыманюк з Семяноўкі). Прыехаў беластоцкі тэлежурналіст Юры Каліна з апаратарамі.

Найперш адбылося шэсце мастацкіх калектываў з Беларусі і Беласточчыны ў каляровых вышываных народных касцюмах і пад музыку па вуліцах Ліпін. Затым вадзілі Дзяўчыну-Куст па сяле і з песнямі заходзілі на вясковыя панадворкі.

Фэст пачаўся а гадзіне 17-й. Сабраную публіку на лавачках, якія заслалі плахтамі, ды ў ценю пад бярозамі сардэчна прывіталі вядучы мерапрыемства Янка Шыманюк і солтыс Ліпін Кацярына Якубоўская. І паплылі па ваколіцы мілагучныя беларускія, украінскія і польскія песні. Беларускіх было найбольш. Усе прыгожыя ды цяжка было б іх пералічыць. Былі беларускія і рускія частушкі.





Мне ўдалося пагутарыць з вельмі жвавай і энергічнай кіраўнічкай калектыву „Чабатухі" Венерай Рыгораўнай Папіціч (яна працуе ў Доме фальклору ў Сташаве). Вось такая цікавінка. Гурт узяў сабе назву са слоў адной беларускай песні. Існуе ён з 1955 года, супрацоўнічае з Музеем малой Айчыны ў Студзіводах. Перад поўднем у нядзелю, 8 чэрвеня, „Чабатухі" ўжо выступілі ў Музеі вёскі ў падбеластоцкіх Асовічах і хадзілі з „Кустом". І зараз вечарам паедуць у царкоўку ў Крыначцы, да якой адсюль рукой падаць.

Канцэрт з вялікім запалам вёў Янка Шыманюк. Ён самародны акцёр, весялун, спявак і дэкламатар. Ён усім спадабаўся. Спявалі ўсе гурты. Было цікава, панавала прыемная атмасфера. За песні публіка дзякавала воплескамі. Былі ахвотныя патанчыць пад беларускую музыку.

Арганізатары запрасілі ўсіх на пачастунак — на бігас і ахаладжальныя напіткі, а таксама на печаныя на вогнішчы кілбаскі.

У падрыхтоўцы фэсту працавалі Эва Сакоўская (яна варыла бігас), Яніна і Пётр Кірылюкі, Аляксей Васько, Аліна Гаўрылюк, Аліна і Славамір Артэмюкі, Людміла Місяюк і Аліна Валькович (святліцовая).

Варта дадаць, што ад 15 чэрвеня да 15 кастрычніка г. г. „Крыніца" будзе выконваць задачы, запісаныя ў праекце пад загалоўкам „Гатаванне здаровай ежы спалучае пакаленні". У верасні ў Ліпінах адбудзецца свята капання бульбы, на якое запрасілі „Ніву".

**Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

# Падляшскія жалезныя крыжы

Некаторыя элементы навакольнага краявіду звычайна штодзень не прыцягваюць да сябе ўвагі. Аднак калі пачынаюць знікаць, тады ўсведамляем сабе іх дасюлешнюю прысутнасць. Асабліва датычыць гэта дробных элементаў традыцыйнай малой сакральнай архітэктуры, напрыклад, каваных уручную жалезных крыжоў, якія калісьці звычайна вянчалі вялікія, драўляныя крыжы або дашкі прыдарожных каплічак.

Дзесяткі гадоў таму ў нашым краявідзе было многа такіх месц, якія набожныя людзі стараліся сакралізаваць адпаведным рэлігійным сімвалам. На могілках не блішчалі мармуры і граніты, аблепленыя стракатым кажухам пластмасавых псеўдакветак, толькі стаяў лес драўляных крыжоў, пад якімі расквечаны копчык зямлі скрываў астанкі чалавека. Усё было больш натуральнае і шчырае. Памяталі людзі аб памерлым, то і крыж стаяў, пакуль не зменшыўся ад паўторнага закопвання, або не перакуліўся зусім. На вяршыні драўлянага крыжа вельмі часта красаваўся невялікі жалезны крыжык, выкаваны вясковым раменнікам. І менавіта малыя каваныя крыжы з'яўляюцца тэмай прыгожага альбома, выдадзенага нядаўна Падляшскім музеем у Беластоку.

Альбом „Кавальскі крыж на Падляшшы"* — бо пра яго ідзе гаворка — гэта манументальнае выданне. Тэма крыжоў і каплічак здаўна карыстаецца вялікім зацікаўленнем, аднак бадай упершыню так многа ўвагі адведзена тым невялікім, але як жа важным дадаткам да асноўнага драўлянага аб'екта. Не месца тут, каб паўтараць весткі аб творцах ці аб способах кавання гэтых прыгожых прадметаў — гэта, як і апісанні паасобных тыпаў крыжыкаў змешчаны ў альбоме. Самай вялікай каштоўнасцю выдання з'яўляюцца ілюстрацыі. Гэта сапраўдная галерэя невялікіх фрагментаў блізкага нашаму сэрцу падляшскага краявіду. Прыкметныя месцы, у якіх каваныя крыжыкі розных тыпаў выступаюць у вялікай колькасці. Найбольш здымкаў зроблены было ў Кленіках. Нямала крыжыкаў сфатаграфалі ў Парцаве, Кнарыдах і ў наваколлі Гайнаўкі. Кажуць, што чым далей на поўдзень, тым жалезных крыжыкаў менш. Аднак можна іх заўважыць нават на паўднёвым Падляшшы, дзе рускага насельніцтва засталося мала. Я сам бачыў жалезныя крыжыкі на палях вёскі Мендзылесе Бяла-Падляшскага павета (праваслаўны крыжык!) ды ў Зачопках каля Янава-Падляшскага.

Прыгожа выдадзены альбом Войцеха Кавальчука „Кавальскі крыж на Падляшшы" мае яшчэ адну станоўчую рысу. Можна яго атрымаць у Падляшскім музеі ў Беластоку бясплатна пры закупе іншых кніжак або паштовак. Гэта разумны маркетынгавы прыём: часта тое, што атрымліваем дарма, не цэнім належным чынам, але да заплачанага ставімся з большай пашанай.

**Марк ЦЫБАРТ**

* Wojciech Kowalczuk, *Krzyż kowalski na Podlasiu*, Muzeum Podlaskie w Białymstoku, Białystok 2013, ss. 144.

# Водны шлях Днепр — Вісла

Аб гэтай справе я пісаў ужо некалькі гадоў таму. Тады было зразуменне, поўная падтрымка і пералічванне карысцей, якія гэтая ініцыятыва можа прынесці рэгіёнам, праз якія пралягае гэтая водная артэрыя. Чыноўнікі гаварылі, журналісты пісалі, а вада ў Бугу плыла сабе спакойна, так як і сёння цячэ. А паколькі бюракратыя любіць пустазвонства, хаця б толькі на паперы, час ад часу ўздымаюць справу, што дае нагоду для з'ездаў розных чыноўнікаў і гутарак у мілай атмасферы.

А справа тычыцца старога воднага транспартнага калідора E40, які цераз Днепр, Віслу і Одру злучае басейны рэк Балтыйскага і Чорнага мораў. Да сённяшняга дня выкарыстоўваюцца фрагменты шляху на постсавецкай тэрыторыі і ўчастак ад Віслы на захад і поўнач у напрамку Балтыкі. Але цэлым шляхам нельга карыстацца па той прычыне, што канечны беларускі ўчастак перад самой граніцай з Польшчай нясуднаходны. І хапіла б гэты фрагмент расчысціць, пусціць баржы з таварамі і пасля чыноўнікі хай сабе абмяркоўваюць справу гадамі.

На жаль, была выбрана адваротная дарога. Спачатку шырокае кола прадстаўнікоў Сталага камітэта рачнога транспарту Эканамічнай камісіі ААН для Еўропы, міністэрствы транспарту і інфраструктуры, памежныя рэгіёны, навуковыя інстытуты Польшчы, Беларусі, Украіны і Нямеччыны стварылі праект „Аднаўленне воднага шляху E40 на ўчастку Днепр-Вісла: ад стратэгіі да планавання". Мэта праекта — між іншым, вызначыць найбольш эканамічна эфектыўныя і экалагічныя сцэнары для аднаўлення воднага шляху E40. Цікава, ці прадбачваецца вызначэнне новых рэчышч для рэк, якія і так плывуць сабе як хочуць. Усё магчымае. Дык жа ўжо таварыш Сталін паварочваў рэкі, пераносіў горы, перасяляў народы, а пустыні замяняў у квітнеючыя сады... Нічога тады дзіўнага, што можа гэтае спрабаваць зрабіць сучасная бюракратыя!

Нядаўна, 27-28 сакавіка 2014 года, у Брэсце адбылася міжнародная канферэнцыя па справах аднаўлення воднага транспартнага калідора E40 на ўчастку Днепр — Прыпяць — Дняпроўска-Бугскі канал — Мухавец — Буг — Вісла. Прынялі ў ёй удзел дэлегаты чатырох краін. Польшчу прадстаўлялі, між іншым, віцэ-маршалак Люблінскага ваяводства, староста Бяла-Падляшскага павета і войт Тарэспальскай гміны — самі эксперты! У ходзе канферэнцыі былі зачытаны даклады, створаны працоўныя групы па справах воднага шляху E40, прыняты дэкларацыі. Значыць, нічога новага. Не так павінна выглядаць супрацоўніцтва двух сапраўды блізкіх сабе суседзяў — Польшчы і Беларусі. Чыноўніцкая балбатня не заменіць фактычнай дзейнасці ў карысць насельніцтва, пражываючага над Бугам, якое мае права разлічваць, што ўлады выкарыстаюць літаральна кожную магчымасць для актывізацыі прыгранічных рэгіёнаў. Рэальнае, а не толькі на паперы, аднаўленне запушчанага воднага шляху гэта магчымасць узнікнення на гэтай тэрыторыі транспартнага цэнтра міжнароднага рангу, што ў выніку павінна даць новыя месцы працы, прынесці палёгку для перагружанай сістэмы дарог, абмежаванне выкідаў двухвокісу вугляроду ў атмасферу, развіццё міжнароднага турызму і г.д. Нямала, але ці гэтага дачакаем?

Пры ўсёй чыноўніцкай псеўдаактыўнасці прыпомніліся мне словы, якія канчаюць адну байку Крылова: „Да только воз и ныне там".

**Марк ЦЫБАРТ**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)

www.e-zorka.pl

зорка

для дзяцей і моладзі






# Багаты, прыгожы школьны год!

Гэты дзень, калі ў Беластоку ладзяць сімвалічнае заканчэнне школьнага навучальнага года, для нашых дзяцей і бацькоў найважнейшы ў годзе. Адны будуць выступаць са спектаклямі і песнямі, другія — захапляцца... Будуць апладысменты, кранальныя развітанні і словы падзякі. Развітанне са школай менавіта і пачалося з падзячнага малебна 5 чэрвеня г.г. Праз тыдзень, у пятніцу 13 (!) у кафэ „Фама” падрыхтавалі спектаклі і мюзіклы, песні і кабарэ. Былі кранальныя развітанні і чыстая радасць ад сустрэчы. Свята павялі дзве цудоўныя дзяўчыны: Лідка Пякарская і Нінка Ваўранюк.

— Мы не маглі дачакацца моманту аж прыйдзе наша чарга, — прызналіся.

У аб’яднанні АБ-БА такая ўжо традыцыя, што канферанс аддаюць у рукі ліцэістаў, сёлетніх выпускнікоў. Яны самі — жывы поспех. Беларуская мова, з якой сябравалі ад прадшколля, паспрыяла іх развіццю. Адкрыліся ім многія вокны і дзверы.

Яны самі падрыхтуюць жартоўнае кабарэ, у якім выкажуць па-



дзяку настаўнікам і бацькам. А ўсё пачалося з выступлення тэатральнага гуртка „Гульня ў тэатр”, які паказаў мюзікл „Каты”. Поспех беларускага школьнага тэатра невыпадковы. Апякунка гуртка Аліна Ваўранюк запрасіла таленавітых акцёраў, музыкантаў, мастакоў. Музыку да „Катоў” падабрала і часткова напісала настаўніца з садка Анна Бабік. У падрыхтоўцы дапамагаў беластоцкі акцёр Бернард Баня. Вельмі жывы і вабны атрымаўся канцэрт гуртка „Баламуткі”, які вядзе Анна Васькоўская. Яшчэ больш уразіў спектакль „Зялёны востраў Банана”. Гэтую пастаноўку ставілі многія групы. Сённяшнія шасцікласнікі былі найлепшыя з усіх! У іх пастаноўцы спалучыліся ўсе элементы: слова, ігра, сцэнічнасць, дэкор, музыка. Гледачы (і асабліва наймалодшыя дзеткі) глядзелі на іх як зачараваныя. Галоўная завадатарка і душа школьнага мастацкага руху настаўніца Аліна Ваўранюк атрымала кветкі і бурныя апладысменты. Беларускія выступленні і мастацкія прыгоды дзяцей, аб’яднаных у АБ-БЕ, спрыяюць развіццю і творчаму думанню. Нядаўна яны прынялі жывы ўдзел у вернісажы ў Крынках. Яны размалявалі чорна-белыя малюнкі мастачкі Маргарыты Дмітрук. Зараз пад кірункам, між іншым, славутага Лявона Вольскага вывучаюць гіты „Басовішча”. У планах выступленне на беларускай рок-сцэне ў Барыку. Ёсць цікавыя прапановы для бацькоў, у гэты раз яны плывуць на байдарках праз Сакалду і Супрасль.

**Фота і тэкст: Ганна Кандрацюк**





# Радасць жыцця

У адной хаце была маленькая норка. Яна мела дзверы, вокны — як у хаце. Усярэдзіне на падлозе ляжаў мяккі дыван, а пры акне стаяла вялікая канапа. У гэтай норцы жыла мышка. Яна вельмі любіла есці сыр. Калі ў яе быў поўны жывоцік, мышка спявала. Гэта абазначала, што яна шчаслівая. Час ад часу да мышкі прыходзілі госці. Яна частавала іх сырам, а пасля ўсе спявалі.

**Габрыела Торка,**
**НШ свсв. Кірыла і Мяфодзія ў Беластоку**

# Услужлівы шапачнік

*(армянская казка)*

Прыйшоў аднойчы заказчык да шапачніка. Прынёс ён авечую шкуру і кажа:

— Пашый мне шапку з гэтай аўчыны.

— Добра, — адказаў шапачнік, — пашыю.

Выйшаў заказчык, ідзе і думае: „Мая шкура вялікая. Ці не атрымаецца з яе дзве шапкі?”. Падумаў і вярнуўся ў майстэрню.

— А ці не будзе з гэтай аўчыны двюх шапак?

— Будзе, — адказаў шапачнік.

— Калі так, тады зрабі мне дзве шапкі, — сказаў заказчык і пайшоў.

Прайшоў ён некалькі метраў, падумаў і зноў назад вярнуўся ў майстэрню.

— А ці тры шапкі з гэтага не атрымаецца?

— Будзе і тры, — адказаў яму шапачнік.

— А можа і на чатыры хопіць?





— Хопіць на чатыры!

— А хопіць на пяць?

— Зраблю пяць!

— Тады зрабі мне пяць шапак, — сказаў заказчык.

Пайшоў ён, аднак зноў вярнуўся.

— Майстар, а можа шэсць шапак зробіш?

— Зраблю шэсць!

— А сем не атрымаецца?

— Атрымаецца.

— А можа... восем выйдзе?

— І восем выйдзе, — адказаў спакойна рамеснік.

— Ну, тады зрабі мне восем шапак.

— Калі ласка, зраблю табе восем шапак.

Прыходзіць праз тыдзень заказчык па свае шапкі.

— Ці мае восем шапак ужо гатовы?

— Усё гатова!

Паклікаў майстар свайго вучня і кажа:

— Прынясі заказчыку яго шапкі!

Вучань прынёс восем шапачак. А яны такія, што не на чалавека, а на яблыкі надзяваць.

— Майстар, а чаму шапкі такія маленькія? — спытаў здзіўлены заказчык.

— А ты сам падумай, — адказаў яму шапачнік.

Узяў заказчык восем маленькіх шапачак, ідзе дамоў і думае: „А чаму гэтыя шапкі такія маленькія? Чаму такія маленькія? Чаму?”.

# Вершы Віктара Шведа

## Цікавы адказ

— Чаму сынка Лёўкі
Няма на занятках?
— Ён пасвіць кароўку, —
Адказала матка.

— Ці занятак гэты
Важнейшы ад школы?
— Можна жыць без асветы,
А без яды — ніколі.

## Лепшы ад вярблюда

Запытала маму Люда
— Ці ты бачыла вярблюда?
Гэты звер працуе многа
І не п'е тады нічога.

— Адкажу табе я, Люда,
Бацька лепшы ад вярблюда.
Працы пазбягае з боем,
А затое п'е запоем.

## Трусіныя вушы

Янка хацеў бы вушы
Мець дамашняга труса.
— Пачуў бы я без ласкі
Кожную падказку.

— А я, — азваўся Коля, —
Не згадзіўся б ніколі.
Bосъ такія вушы
Доўга мыць бы мусіў.

*Вераніка Кардзюкевіч,*
*НШ свсв. Кірыла і Мяфодзія ў Беластоку*

## Сыр! Сыр! Сыр!

*У сярэдзіне сыра*
*жыве маленькая мышка,*
*разам з ёй жыве цэлая сям'я.*

*Ёсць і мышаняткі,*
*якія любяць розныя заняткі.*
*А пад вечар – заўсёды вячэра*
*і абавязкова любімая страва:*
*Сыр! Сыр! Сыр!*

*Барбара ДАМБРОЎСКАЯ,*
*Плянты, школа ў Міхалове*

## У вёсцы

*Конікі бегаюць і скачуць,*
*Малыя дзеткі іх глядзяць,*
*Мяўкаюць сабе кацяняты,*
*Ускокваюць на высокія платы.*
*Сабакі брэшуць,*
*А шчанюкі гуляюць.*
*Дзеткі шпацыруюць*
*І прыроду глядзяць.*
*Старэнькія бабулі размаўляюць*
*І ўнукаў распешчваюць.*

# Увага, конкурс!!!

# (№ 25-14)

## Загадкі з роднай хаткі

**Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку” да 30 чэрвеня, найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

**1.**
Гэта ж трэба!
На сцяжынцы —
Шпількі вострыя
ды шыльцы!
(В....)

**2.**
З-пад мохавай сховы
Павысоўвалі хлопцы галовы.
Хто і ідзе - іх вітае,
З сабой забірае.
(Г....)

**3.**
То страляла, як з гармат,
То скакала весела,
Каляровую дугу
Між аблок павесіла.
(Б... і в......)

**Адказ на загадкі № 22-14:**
**ластаўка, вецер.**
**Узнагароды, фламастары, выйгралі Наталля Маркевіч і Ганна Годзінская з Бельска-Падляшскага. Віншуем!**

# Польска-беларуская крыжаванка № 25

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 21:**

Вядро, каса, аладкі, малако, вока, рот, жара, яна, ар, какарда.

Свет, камора, малако, салатка, вада, кніжка, дзік, абрад, ода, ара.

Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі **Мальвіна Маркевіч**, **Юлія Скарбіловіч**, **Кацярына Лаўрашук**, **Марыюш Асташэўскі** з Бельска-Падляшскага, **Марта Кардаш**, **Юлія Грыка**, **Юлія Васілеўская** з Міхалова, **Давід Вапановіч** з Бабік. Віншуем!

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Panna | | Chmura | | As | Hit | Ślad | | |
| Rower | | Jaskółka | | | | Wzlot | | Dywan |
| | | | | | | | | |
| Wrzątek | | | | Wtedy | | | | |
| | | | | | Czas | | No | |
| Irys | Trans | | Alena | | | | | |
| | | | | | Ton | | | |

# Карцінкі з глыбінкі (4)

Сельская карцінка Тымянкі

**Пакінуўшы каля вульчанскай крамы тамашняга заўсёдніка, пакінутага і так амаль усім ягоным космасам, рвануўшымся ў гонку за прыстойным жыццём, рвануўся і я ў гонку з чарговым адрэзкам часу. Зноў заспяшаў я ў напрамку чарговага аўтобуснага прыпынку, спадзяючыся гэтым разам усё ж такі ўспець на аўтобус, цяпер ужо ў Тымянцы. Запамяталася мне, што ад Вулькі-Нурэцкай Тымянка за паваротам, адно не запамяталася, што той паварот дарогі не адзін, што пунктуальны ў той дзень аўтобус не збавіць па нейкай прыхамаці лёсу свайго ходу. Усведаміўшы гэта, збавіў я сваю хаду, маючы хісткую надзею, што ўспею яшчэ на поезд, да табельнага ад'езду якога аставалася шмат часу. А надзея тая хісткая, бо ж жыццё прыносіць шмат нечаканасцей...**

Такой нечаканасцю ў тамашнім антуражы паказалася мне навюсенькае асфальтавае палатно, якое з'явілася недзе пасярэдзіне дарогі між Вулькай-Нурэцкай і Тымянкай. Гэта быў пераход з аднаго асфальтавага свету ў зусім іншы асфальтавы свет: з асфальтавай Польшчы Б у асфальтавую, гладкую як стол Еўропу А. Толькі вось пытанне: чаму гэтага дабрадзейства хапіла толькі на тое, каб дацягнуць той асфальт у чыстае поле, заміж — здавалася б лагічна — дадаць яшчэ крышку і давесці да крайняй у Нурэцкай гміне вёскі, у якой у яе зорны час пражывала больш за паўтысячы душ. Аказваецца, што гміна з паветам сабралі сродкі на пракладку новага дарожнага палатна толькі на адрэзку каля дзевяці кіламетраў. Адлегласць жа ад Нурца-Станцыі да Вулькі-Нурэцкай крышку большая, таму, мабыць, прынята было саламонавае рашэнне, каб новай дарогі крыху не дацягнуць і да аднаго, і да другога яе канцоў; пачынаецца той асфальт у лесе недзе паміж Нурцом-Станцыяй і Аўгустынкай ды канчаецца ў згаданым ужо чыстым полі...

Паламаны згаданы ўжо асфальт, якога мадэрнізатары не падмянілі новым насцілам, з'яўляецца свайго роду памяткай не так даўняга мінулага. Іншыя рэлікты прошлага паказаліся каля Тымянкі. Адным з іх невялікая спортпляцовачка з неадлучнымі дзвюма самаробнымі брамкамі з жэрдак і крыху ўтаптанай штрафной пляцоўкай перад адной з іх, а гэта абазначае, што нейкае маладое пакаленне ўсё яшчэ тут захоўваецца. Зараз жа за тымі брамкамі паказаліся і дзве кароўкі, а гэта знак таго, што традыцыйнае малатаварнае гаспадаранне таксама яшчэ тут захоўваецца.

За агароджай панадворка, які з аднаго боку абнімае вясковая вуліца, а з другога дарога ў напрамку Вулькі-Нурэцкай, цэментны крыж амаль васьмідзесяцігадовай даўнасці, з 1935 года. На крыжы малітва жыхароў Тымянкі за захаванне здароўя і даўгавечнасці, за захіленне вёскі Гасподнім покрывам... Калі я цікавіўся гэтым крыжам, выйшаў да мяне гаспадар хаты, які нарадзіўся два гады пасля ўстанаўлення таго крыжа...

За людзьмі цягнуцца, аднак, нейкія грахі і мабыць таму іхнія малітвы не заўсёды пасяховыя. У 1944 годзе на подступах да Буга прайшлі цяжкія баі, калі адступаючыя немцы намагаліся спыніць маланкавае наступленне савецкіх войск, якія завяршалі стратэгічную аперацыю „Баграціён" па вызваленню Беларусі. Немцы павялі контратаку ў напрамку Кляшчэль з двух флангаў каб спыніць наступленне савецкай 65 арміі. З боку Камянца ў той час наступала на захад 28 армія — гэтая армія пасля вайны была дыслацыравана на захадзе Беларусі і пасля розных перафарміраванняў зараз называецца Заходнім аператыўным камандаваннем сухапутных войск Беларусі і яго галоўныя часці стаяць у Гродне і Слоніме; можна сказаць, што яго ўдарны напрамак такі ж, як і семдзесят гадоў таму. А 65 армія пасля розных перабазіраванняў і перафарміраванняў зараз называецца Паўночна-Заходнім аператыўным камандаваннем сухапутных войск Беларусі і яго галоўныя часці стаяць у Барысаве і Полацку...

Баі сямідзесяцігадовай даўнасці пакінулі свой трагічны след і ў Тымянцы, загінула тады м.інш. цётка майго суразмоўцы, цяжка была паранена і ягоная маці. Сам ён, сямігадовы тады, быў паранены асколкам у нагу і той асколак, які лекары палічылі не пагражаючым жыццю, захаваўся ў ягоным целе і па сёння. А калі б той асколак прабіўся ў больш уразлівае месца... Мабыць тая напісаная ў цэменце малітва ўсё ж такі памагла...

На паўночным канцы вёскі зарастае ўсялякай расліннасцю будынак былой агранамоўкі. Будынак быў узведзены каля 1960 года, калі польскія ўлады пасля не надта пасяховай спробы калектывізацыі на савецкі лад рашылі праводзіць сельскагаспадарчы прагрэс іншымі метадамі. Менавіта тады ў тых мясцовасцях, дзе былі грамадскія рады — а ў Тымянцы такая ўстанова была, — былі ўведзены штаты аграномаў, якія той прагрэс мелі праводзіць у жыццё. Аднак з ходам часу тое ж жыццё пачало ўводзіць

„Пачакальня" ў Новым Нурцы

Расклад язды запрашае і на ўсход, і на захад

свае карэктывы ў шляхетныя планы дзяржаўных вярхоў, маргіналізуючы ролю задуманага імі вясковага авангарда...

Дарога з Тымянкі ў напрамку Мілейчыч пад брукавым насцілам і вядзе яна цераз вёскі Нурэц і Нурчык. Каля Нурца ў 1970-х гадах быў устаноўлены чыгуначны прыпынак, названы Новым Нурцом. Нурцоў у наваколлі поўна і кожная з тых мясцовасцей мае сваё ўласнае непаўторнае мінулае. І гэты Нурэц, што ў Нурэцкай гміне, меў таксама калісь свой зорны час. А было гэта даўно...

Уладальнікам Нурца ў XVII стагоддзі становіцца Пётр Кахлеўскі. Вось што пра яго пішуць даведнікі: „Палітычны і рэлігійны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага, асветнік і паэт. Атрымаў добрую адукацыю, быў кваліфікаваным юрыстам, ведаў антычную філасофію, літаратуру, гісторыю. У маладосці служыў пры двары Крыштофа Радзівіла. Набыў вёскі ў Берасцейскім павеце Воля-Нурэцкая, Зубачы, Клюковічы, Ломна, Нурэц, Тумін, Цяляцічы. Удзельнік змовы за дэтранізацыю Жыгімонта III Вазы на карысць Гастона Арлеанскага — брата французскага караля Людвіка XIII, пасля правалу якой вымушаны быў адысці ад палітычнага жыцця. У час бескаралеўя 1632 зноў вярнуўся на палітычную арэну. Адначасова займаўся і царкоўнай дзейнасцю. Паводле веравызнання быў кальвіністам. У адным са сваіх уладанняў (в. Нурцы) у 1638 пабудаваў кальвінскі збор, пры ім школу і шпіталь, фінансаваў іх дзейнасць. Атрымаў вядомасць як аўтар твора „Pobożnego Ewangelika do braciej tegoż wyznania przestroga i napomnienie", у якім намаляваў карціну жорсткага разгулу каталіцкай рэакцыі на Беларусі. Яму прыпісваюць аўтарства ананімна выдадзенага твора „Zdanie bezimiennego Ewangelika o tolerancji religijnej w Polsce", які прама заклікаў да ўзброенага адпору духавенству, асабліва езуітам. Паказваючы заняпад Рэфармацыі, асветніцтва, культурнага жыцця на Беларусі і ў Літве, Кахлеўскі называў галоўнымі віноўнікамі такога становішча каталіцкае духавенства і езуітаў, якія здзекаваліся над іншавернікамі, груба парушалі прывілеі і пастанову Варшаўскай канфедэрацыі аб свабодзе веравызнання, знішчалі пратэстанцкія школы і друкарні. Кахлеўскі быў асабіста знаёмы са славутым чэшскім педагогам Янам Амосам Каменскім, які да 1645 быў выхавацелем яго старэйшага сына, падзяляў педагагічныя ідэі чэшскага асветніка".

Вось фрагмент фундушавага запісу Пётра Кахлеўскага на нурэцкі кальвініскі збор з 1638 года: „Ja, Piotr Benedyktowicz Kochlewski, sędzia ziemski Brześciański ludziom tym moim listem wiadomym czynię, ponieważ ta jest powinność człowieka chrześcijańskiego aby według przemożenia swego chwale Bożej usługował. A tak ja Piotr Kochlewski, uważając iż żadne nabożeństwo bez opatrzenia i prowizji, jako samych miejsc, tak i osób na służbę Bożą odłączonych, obejść się nie może, tedy tym zapisem moim dobrowolnym na wieczne czasy funduję i zapisuję sam zborny budynek z dwoma dzwonami i z zegarem i dzwonem zegarowym, także budynek plebanii, przy tym budynek szkolny, na koniec budynki dwa szpitalne, jeden dla ubogich wyższej kondycji, którzy bez żebraniny żyją, drugi dla prostych i pospolitych żebraków, także i ten wszystek grunt, na którym te budynki stoją, na koniec i ogrody i sianożęci i sadzawkę starą przy tychże budynkach będącą, w moc, w władzę i w wieczne nieodzowne prawo, własność i dziedzictwo zapisuję seniorom i patronom zborów ewangelickich w Wielkim Księstwie Litewskim teraz i na potem będących...".

Гэты шляхетны запіс вытрываў не надта доўга, бо апошняя згадка пра нурэцкі кальвінскі храм датуецца 1723 годам, а што з ім сталася пазней — пра гэта весткі не захаваліся. Праўда, маёнтак у Нурцы існаваў, нават панская рэзідэнцыя была значна разбудавана, аднак і ёй Час наканаваў падобны як і тамашняму пратэстанцкаму збору лёс.

Геаграфічны слоўнік Каралеўства Польскага з пачаткаў мінулага стагоддзя каротка згадваў пра Нурэц: „...wieś i folwark pow. brzeski gub. grodzieńskiej, gmina Rohacze, 57 wiorst od Brześcia. Wieś 316 dziesięcin, folwark hr. Ronikierów 951 dz."; значыць у тамашняга пана было ў тры разы больш зямлі чым ва ўсіх апошніх сялян.

Юзэф Марошэк: „Dla Nurca i jego mieszkańców tragicznymi okazały się lata I wojny światowej. W 1915 r. Florentyna Roniker wraz z czterema synami ewakuowała się do Moskwy (tam wszyscy czterej ukończyli korpus kadetów), pozostawiając majątek bez należytej opieki. Jeden z braci Karol zginął w czasie działań wojennych, drugi brat Marian przeszedł przez obóz jeniecki w Górach Harzu. Trzeci spośród braci — Niutek został ranny, był lotnikiem, przeżył katastrofę lotniczą, ale utracił wzrok. Do 1930 r. mieszkał w Chinach, w Harbinie, nie mogąc znieść swego niedołęstwa popełnił samobójstwo oblewając się wrzątkiem. W l. 1915-1922 nastąpiła drastyczna dewastacja kompozycji ogrodów, zabudowań i całego siedliska dworskiego. W 1920 r. spalono modrzewiowy dwór. Okrojony i zaniedbany park stał się nieużytkiem".

Ды не толькі маёнтак адышоў у нябыт. Час з'яўляецца такім універсальным прыбіральнікам, які чысціць прастору са старых, аджытых рэчаў дзеля прадастаўлення той прасторы задумам новых пакаленняў. Саракагадовай даўнасці пачакальня ў Новым Нурцы ўжо незапатрабаваная і наглуха закрытая, а пероны прыпынку зарастаюць пакуль што нізкай расліннасцю. Юзэф Марошэк: „Leokadia Narbuttowa [нявестка Фларэнтыны] wspominała, że wracając ze zsyłki sowieckiej dojechała do Bielska i tam na stacji kolejowej ujrzała widok, którego nigdy się nie spodziewała ujrzeć. Przy torach stały załadowane biednym dobytkiem furki wieśniacze. To chłopi z Nurca repatriują do Sowietów. Wyjaśniono im, że czas najwyższy wyrwać się z niewolniczych pęt i osiąść w krainie wiecznego dobrobytu". Мара пра Эльдарада здаецца быць непадуладнай Часу. Сучаснае жыхарства цяперашняга тамашняга павета таксама вырываецца адтуль, толькі ў зусім іншым напрамку. Сядлецка-чаромхаўскі поезд спыніўся ў Новым Нурцы толькі для мяне...

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

— Марыя САШКА —

# Па Дону гуляе

Збіралі, вазілі сена з Ляскоўкі, што над рэчкай Нараўкай. Мішка зляцеў на вогністым кані, на прыпражку да велічнага воза, што стаяў гатовы побач Соньчынага луга. Прыгажун — Мішка гэты. Бялесы, са снапом раскідзістых пшанічных валос — кучарашак-абаранкаў, якія наўкруг славіліся сваёй красой. Хлопец-малюнак, які, здавалася, сышоў з грэчаскай амфары, статуі, гэткі кінаэкран, што выйшаў на шпацыр на луг, вуліцу, з алебастравымі рукамі, нагамі, грудзьмі, тварам...

— Калі пойдзеш за мяне, красавачка-русалачка, га? Сватоў калі пасылаць? — крутануўшы галавой, аж абаранкі-кружкі-кольцы ўніз, здавалася, на зямлю паляцелі, смяяўся Мішка ва ўсю шырань ірта, на кані танцуючы...

— Анцыхрыст, затопчаш! — крыкнула Сонька, замахнуўшыся граблямі, гэткая чарнуленька белазубая, якую адразу былі ўсе празывалі казачкай Аксіняй пасля фільма „Ціхі Дон", за яе нябесную красу і чароўнасць. — Сватоў! Лодзь цэла па табе сохне, плача, чарцяка, я ж не бачу? Уся фізіка-матэматыка слёзы вылівае, не ўцешыцца, дзеўкі як пакутніцы ходзяць, гатовыя тут жа ў штабялі легчы-паўкладацца, хлопцы цмокаюць-зайздросцяць, а ты ў сваты — да мяне! — залілася смехам-жаваранкам Сонька. — Бяды адусюль нахлябчуся!..

— Сваты, Сонька-красатунечка, да цябе, свацікі, с-в-а-т-а-нь-кі! — закрычаў-прагрымеў ён радасна: — Дзядзь Сашка, цётка Маруся, аддайце Соньку за мяне! — і твар ягоны зноў абліўся ўсмешкай.

— Балабон ты, Мішка, вось што, якія сваты? Ты ж яшчэ на пятым курсе, якое вяселле, канчаць трэба!

— Аддайце мне маю Соньку, благаславіце, а то ў Амерыку ўцячэм!..

— Так, так, можа ў Афрыку, там вас чакаюць!..

— Благаславіце! — паўтарыў Мішка і заспяваў на ўвесь луг голасам звонкім, прыемным, шаўковым, як і сам, цудоўным: „Па Дону гуляе, па Дону гуляе, па Дону гуляе казак маладой!.." І прыпрог свайго каня...

— Ну, уціхамірся ты ўжо, памыленец адзін! — пракрычаў, відаць што абрадаваны, яго бацька Іван і дадаў: — Сашка, Маруся, а што? Мішка справу гаворыць, і сапраўды, чаго чакаць?..

— Іване, не ўсё ж гатова...

— Сашка, чаго? Вепрукоў у мяне ці ў цябе няма? І залатоўка якая шчэ ў кішэні калэнтаецца, пагуляем, га?

— Ды мы што, Іване, Гандзя, ці супраць?..

— Ну вось, дзеці, згаворвайцеся, недзе на верасні, пасля Чэснага Хрэста... Пакуль што, візы ёсць, у Парыж, да цёткі Наташы, сястры маёй, катайцеся, свету пабачыце... А-м-і-нь! — і паражагнаў іх.

Мішка падскочыў, Соньку абхапіў, у губы, шчокі ўпіўся, аж тая ад нечаканасці (але ж, хлусня гэта дзявочая: „нечаканасці", заўсёды — увесь час „чаканасці"!) аж яўкнула, а Мішка зноў заспяваў радасна: „Жыць без любві быць можа й проста, а як на свеце без любві пражыць!", і п-а-е-х-а-ў! Аж луг закалыхаўся і рэчка рэхам адазвалася... Бацькі ўсе, дый суседзі побач, што сена граблі-складвалі, галовамі радасна ківалі, цешыліся... Бо яны, Сонька і Мішка, ад калыскі, з маленства, заўсёды разам... Возьмуцца, бывала, за ручку — ды на вуліцу, ды ў школу... Гэтак яны і ў ліцэй у Бельску прахадзілі-праездзілі, неразлучныя, ва ўніверсітэт у Лодзь падаліся-дасталіся... Наглядзецца на іх народ не мог: адны, чужыя, думалі — гэта брат і сястра, другія — нарачоныя, яшчэ іншыя — муж і жонка, пасля шлюбу наглядзецца на сябе не могуць, закаханыя...

* * *

Недзе праз тыдзень бяда ў сяло з'явілася-прыехала... Сын цёткі Вольгі, сястры Сашкавай, што гадоў з дваццаць у грэчаскіх Салоніках жыве, з таварышам на лета ў Польшчу прыехаў; цуда-юда якоесь, усе ў Грэцыю едуць, а яны сюды, на няшчасце, прывалакліся... Навакольныя дзяўчаты памлелі ад гэткіх чарнявых двухметровых арыстатэлесаў. Грыгорыос і Георгіос іх звалі... Дурная справа заварылася, ёкнула было чагосьці, па-дзявочаму, і сэрца Сонькі, і яна падумала: чаму гавораць, што ад прыбытку галава не баліць?.. Два апалоны ў іхняй хаце з Алімпа побач з'явіліся, ураз з вазы старыннай зышлі, яны ж — грэкі, адонісы, прыгажуны шакаладныя, увесь свет знае... Стала неяк прыемна Соньцы, што Георгіос затаптаўся-затанцаваў каля яе, абскокваў штодзень, шкадуючы, што мовы нашай не знае, праз таварыша гаворачы... Усе ў хаце прыкмецілі, бяды спужаліся... Брат Соньчын, Вася, з сястрой пасварыўся, бацькам данёс, што на танцах-забаве Мішка шмульгануў разы два Георгіосу па твары. Сашкавы згаворваліся тайком гэтых альфу і амегу якасьці адправіць дамоў, ды не ведалі, як людзей узяць, сёння-заўтра ды за парог выкінуць...

А Мішка, на вуліцы, пры суседзях Сашкавых, усім звар'яцела заявіў:

— Адпраўце чарнабрысых зеўсаў сваіх цяпер, с-ё-н-н-я ж! Прыб'ю я гэтага салоніцкага піфагора, і не мяўкне! Мне што? Бацюшкам мае ён быць, мне баяцца?..

Бацька Соньчын рукамі развёў:

— Мішка, як адправіш іх у дзень-два, дый білетаў не купіш...

— Значыць, апалон гэты спадабаўся?!.

— Мішка затросся, кулакі сашчаміў: — Выбірайце, а то і вам каюк будзе, і палацу гэту вашую спалю ў секунду, запалыхаецце — як квач з нафтаю! — і пайшоў, не ў склад, чамусьці, заспяваўшы: „Цыганка гадала, цыганка гадала, цыганка гадала, за ручку брала...".

Абамлелі ўсе... Нават Георгіос зразумеў сказанае... Дзядзька Сашка прадчуваў бяду: у Мішкі характар-нораў бацькоўскі, Іванаў, які ў кавалерстве спуску ніякай галаве не даваў, калі хто каля ягонай Гандзі закруціўся... У Сцяпанавых, было, усе вокны ўраз вылупіў, за сына іх, Грышку, бо той увагі не звярнуў на Іванавы словы „не цягайся за Гандзюляй!"; самога Грышку ў рэчку быў бултыхнуў на глыбінь, у Сямёнаву яму — як яе называлі, адкуль той ледзь з віроў выбраўся... Грышка запланаваў помсту, але Сцяпан — бацька яму, розум у мазгаўніцу ды рэбры вужыскам канапляным налажыў: „Бугаёў у хаце не пацярплю і чужога кранаць не дазволю!" Іван жа быў стаў перад Сцяпанавымі на калені, рукі ім абцалаваў, вокны ўсе тут жа ўставіў, перапрасіў раз дзесяць, бо ж гэта не Сцяпан з Параскаю за яго Гандзечкай валачыліся.

— Ой, Сашка, Сашка! — гаварылі яму ў хаце і ўсе суседзі. — Чаго табе цяпер яшчэ прыйшло і Соньку сілай у Салонікі адправіць-выгнаць?.. Паехалі б грэкі самі, дый годзе!.. Ну, забараніў гаварыць пра вяселле, і забараніў!.. Доньку ў Грэцыю схаваеш? Ва ўніверсітэт жа вернецца, яе ж Мішка табе з-пад зямлі дастане, і ў Егіпце, сярод кракадзілаў знойдзе-выбавіць!.. Чудак ты гэткі, яшчэ й табе, не дай Бог, дадасць, даплаціць, у драхмах ці ў доларах!.. Нарабіў ты бяды, Сашка, і сабе, і ўсім, з Іванавымі вайну пачаўшы...

* * *

Лета выдалася адной велізарнай жарышчай, грамаўладнымі бліскавіцамі... Людзі баяліся спаць па начах, за пушчай у Навасадах амаль кожную ноч штось дзесьці гарэла... І тут, на сяло, наляцелі ў дзень грымоты, як бы кацюшы якія атамныя пачалі ваенны абстрэл... Загарэўся Трахімаў хлеў, заняўся, побач, да нізоўя, і Сашкаў, усе кінуліся ратаваць, каб агонь не пайшоў далей па клунях і хатах...

— Маці, — сказаў вечарам Сашка, — гэта нас М-і-ш-к-а падпаліў!.. За Соньку!

— Перахрысціся, злыдзень, што ты пляцеш! Ён жа апаліўся быў увесь, як негра якая чорная быў, аксціся, на гарышчы на наш хлеў узлез, галавешкі рваў!..

— Тота і яно, Маруся, што ўзлез, ён жа гразіўся...

— Не нясі напрасліну, бацька, на чалавека, вайны не заводзь, бяды табе з хлявом мала, Сашка?..

— Міліцыі яго здам, маці!..

Сашка перастаў гаварыць з сям'ёю, з людзьмі, зацяўся, пачарнеў, з Іванавымі перастаў спатыкацца... А праз дзень-два да Іванавых зайшоў камендант, прызваў Мішку явіцца на допыт...

У суботу пайшлі да Сашкі гурбою Іванавы, не самі, якраз былі тады да іх сваякі з Забрадоў прыехалі... Сашка адказаў у размове — з падпальшчыкам ён гаварыць не будзе!... хлявы спаліў!.. на хату мерыўся!.. Іванавы жахнуліся, абамлелі, закрычалі, апамятацца прасілі, Сашка ім дзверы паказаў... Мішка, пабляднеўшы, затросся, і працадзіў праз зубы:

— Ну, цяпер та вы точна зоўсім згарыцё!.. Бог тады бліскавіцу наслаў, а сёння, дзядзька, вогненным стаўпом ад мяне гарэць жыўём будзеце!... — і ашалелы, з дзікім візгам ён зацягнуў: „Пагібнеш ты, дзева, пагібнеш ты, дзева, пагібнеш ты, дзева, у дзень свадзьбы сваёй!"

Іванавы, з мычаннем нялюдскім, звярыным якімсьці, схапілі сына за плечы, павалаклі сілай дамоў, аж пясок на сцежцы закурэў-запыліў... А Сашка зноў пайшоў у міліцыю...

Назаўтра Мішку ніхто ўжо больш у сяле не бачыў... Ніколі... Яго ноччу Іван вывез недзе ў далёкі польскі горад — казалі адны, другія шапталіся, што пэўна яны да цёткі ў Парыж падаліся... Далей ад помсты і няшчасця вялікага, з абодвух бакоў...

* * *

А сяло сапраўды ў гэтае лета гарэла, шарэнгай палыхалі клуні з хлявамі, ледзь хаты ўратаваліся... Нейкае невядомае дасюль тарнада над людзьмі і пушчай гудзела-круцілася, танцавала, разоў з дзесяць то адыходзячы, то вяртаючыся, з варкатнёй бліскавіц — рэактыўных якіхсьці бамбавікоў, без краплiначкі дажджу, з ветрам буйным толькі, голасна і дзіка свістаўшым-завываючым... Згарэла і Сашкава клуня, хату ягоную ледзь вёдрамі залілі, вада і ў калодзежах канчалася, страж рукі разводзіла... Сяло быццам перастала жыць-быць, людзі баяліся голасна гаварыць, лічачы, што ўсё гэта за Мішкаву міліцыю Сашкавага абвінавачання...

Сонька даволі хутка вярнулася пасля пажару з Грэцыі, праплакала наўзрыд дні і ночы... Ніхто ўжо нідзе ні пра якоесці вяселле ў сяле і не гаварыў... Сонька паехала ў Лодзь, ва ўніверсітэт, замуж не пайшла ніколі, ні ў Польшчу, ні ў Грэцыю, сяло шапталася, што яна там жа настаўнічае, самотніца... Дахаты Сонька больш ніколі не прыязджала, маці, зрэдку, у Лодзь ездзіла сціха, тайком...

Ішлі месяцы, беглі гады, у дзясяткі складаючыся... Іванавы пачарнелі ад мукі — недзе пад Марселем-Льёнам ці Манака — казалі сяляне — на Мішку наляцеў грузавік-цір, памерла тады там на месцы яго жонка, сынок ухаваўся... Мішка ад таго часу сам хадзіць больш ужо не мог, некалькі крокаў толькі малых па хаце, за што папала трымаючыся... Гаспадарку Іванавы пакінулі меншаму сыну, самі падаліся кудысьці ў свет, ніхто не ведаў дзе яны аселі, у Польшчы ці ў Францыі, жывыя яны яшчэ ці паўміралі, на сваёй ці чужой зямельцы...

* * *

Дзень выдаўся з сонцам афрыканскім, больш да 30 плюс, нельга было ад сонца схавацца, натоўпы людзей цяньку-схованку шукалі, хаця лодзінскі луна-парк вярцеўся-круціўся-граў, а заапарк, паблізу, гудзеў таксама ад дзяцей і дарослых...

— Кудысьці трэба схавацца, — сказала сабе Сонька, выходзячы са звярынца (ну й дзянёк жа яна выбрала сюды прыйсці! Укарала яна сябе гэтак, а за што?)... Сесці дзесь трэба, мо й прылегчы!.. Праўда ж, тут лугі побач прасторныя, там заўсёды спакойна, як у нашай пушчы, далёка ад людскога гоману, не дзіўна што і парк назвалі „Здароўе"... Вось, і дрэвы тут, і цянёчак, ой рай тут сёння, не менш!.. Ляжам, пакусаем чаго там, пап'ём мірынды-брынды, ой-ёй, які тут

працяг ☞10



9 ☞працяг

# Па Дону гуляе

спакой!.. Цішыня, як у нас у Ляскоўцы, дзе мы сена збіралі і вазілі, як тады, калі Мішка сватаўся... Калі ж гэта было, амаль у мінулым веку, мабыць?.. Мішка на кані, спявае, едзе, сваёй чупрынай-снапом пшанічным трасе...

Яна прылегла, як жа міла! Задрамала, у сон-цуда перайшла-пераляцела... Яна зноў у Ляскоўцы, сена пахне, бацька тут, Іванавы побач, Мішкава галава ўсміхаецца, цяпер чамусьці ў касцы... Яна закрычала, села, забыўшыся дзе яна, бо Мішкава чупрына гаварыла чамусьці па-французску: „Je vous demande pardon, madame... Qe je sui maladroit, excusez — moi... Quel domage!..” Мішкавы кудрашкі-абаранкі сядзелі на кані, вылецелі з-пад каскі ды паімчаліся на канісне, паляцелі, зямля ажно затраслася-загудзела, яздок знік у дрэвах!... Божа ж, які яздок, які конь?!. Напляцецца ж, га? Належалася па звярынцы, на звяроў наглядзелася і конь, відаць, тут гэты нейкі з'явіўся.. Але чаму з Мішкам?.. Чаму? А з кім яшчэ, калі ён заўсёды ў вачах, усе гэтыя дзесяцігоддзі, мука гэтая мая!.. Любоў...

Але яна ўсё ж спытала людзей пра коней, пра стайню.. „Ды клуб тут ездавы побач, ездзяць і дарослыя, і дзеці на малых коніках поні”, — быў адказ. Не прыснілася, значыць, заплакала Сонька і перахрысцілася. Госпадзі, казалі людзі даўно, што Мішка інвалід цяпер, як жа ён на кані?.. Але ён б-ы-ў тут! Ц-я-п-е-р! Няўжо ён яго не пазнаць? Увесь жа час яго чупрына была з ёю неразлучнай, на векі, да болю незабыўнай!..

* * *

І чаго толькі Сонька памчалася ў Ловіч, не дагаварыўшыся з падружкай Надзюшай!.. Яе і не было дома... Блага, што паваротны поезд быў тут як тут, у які Сонька ўляцела як страла. Ледзь села, пазваніла Надзюшы і — акамянела!.. Мішкаў голас!.. Птахай пералётнай паляцела яна ў вагон наперадзе. Тут сядзелі і рагаталі хлопцы, аж усё наўкола траслося разам з поездам... За дзвярыма сядзеў Мішка!.. Малады — як каліcь — юны, з капіцай пшанічных валос-абаранкаў! Мішка, яе Мішка, як тады на кані ў Ляскоўцы, як і тады ў касцы у Лодзі... І той жа голас! Сонька абсунулася на падлогу калідора.

— Вам памагчы? — Мішкава галава выбегла да яе. — Вам добра? Хадзіце... Я памагу... Сядайце... Хлопцы, месца! Вады дайце!

Усё ўстала перад вачыма! Вярнулася, нахлынула, стала зноў явай! Дзе ж ты столькі гадоў прападаў, Мішка!

— Выбачайце! — галава цяпер гаварыла па-польску. — Гэта я вас тады ў Лодзі на кані пералякаў, праўда? Радзі Бога, не злуйце, конь мой наравісты, павалок мяне ўбок... Я гляджу — нехта ляжыць, мо кепска? Нахіліўся над вамі, чупрынай сваёй напужаў вас, не злуйце... І, здаецца, я гаварыў да вас па-фрунцузску.

— Я разумею, — гаварыла ўжо Сонька...

Гаварыла з радасцю... гаварыла са шчасцем... Як жа яму сказаць, хлопцу гэтаму міламу, што грыва яго — сноп пшанічны — яе сноп! Як ляшак цэлы! Якога яна гадоў больш дваццаці не бачыла, не кранала, на абымала, не цалавала.. З'ява ты мая нябесная, Мішка ты мой!.. Ніхто, ты таксама, калегі твае і не цямяць, што я бацьку твайго ведала, што гэта каханне маё і боль мой, і трывога мая... І ты мне не кажы, я і не спытаю, не трэба, бо шчасце побач!..

— Выбачайце, — думкі яе перарвала чупрына, — мы ўжо сыходзім, бо Глоўна блізка...

— І я таксама, — сказала яна нечакана і для самой сябе. „Не ідзі!” — гаварыла ёй нешта, другое пхала яе ўперад. „Ідзі, пабач!” Яна пайшла за хлопцамі... Здалечы... Вось і іх дом. Увaходзячы на панадворак, хлопец махнуў рукой... Глоўна, Глоўна, Глоўна чамусьці!.. Праўда ж, ну так, адсюль жа Кася была на іх курсе! Праўда, не скажаш, красуня яна была, дзеўка разумная прытым, памятаю, яна Мішку ядой усё карміла, гаршкі цэлыя возячы, мяне частавала, мы разоў пару за гэта з Мішкам і пасварыліся... К-а-с-я!.. Значыць, гэта ён з ёю ў Парыжы вянчаўся, гэта яна ў самаходзе загінула, а гэты хлапчук-цуда з галавой пшанічнай — іхні сын!

На панадворку стаяла цётка Іваніха, у калясцы — з якой жа сівай галавой-гарой чупрынай — сядзеў Мішка!.. Іваніха п-а-з-н-а-л-а Соньку, схапілася за галаву, нібыта папраўляючы хустку, у другі бок — супраць сонца — павярнула Мішкаву каляску, ні сыну, ні ўнуку і слова не сказаўшы пра бачанае... Іваніха глядзела з роспаччу на Соньку, вочы іх спатkaліся. Сонька прачытала-зразумела: „Не варушы мінулага! Не чапай раны!”

... Але Сонька праз дзень-два прыехала сюды вечарком, каб ніхто не прыкмеціў, прайшлася па вуліцы, паглядзела ў вокны... І зноў потым, яшчэ і яшчэ яна прыязджала ў Глоўна, на дом здалёк паглядзець... Аднойчы Сонька спаткала старушку Іваніху. Тая, гэта было відавочна, усе гэтыя дні чакала, дзяжурыла, баялася... Сонька ёй сказала, рукі цалуючы: „Не бойцеся, не прыйду, але і не ганіце мяне! Гэта ўсё, што было і ёсць у мяне... Шукала я вас, было, па Парыжы, цёця, сказалі мне: выехалі недзе, ці то на Корсіку, ці то на Майорку, як знойдзеш?.. З дурасці бацькі майго загінула ўсё маё і Мішкава, цёця... Здавалася мне неяк, што бачыцам я вас у лодзінскім саборы ўбачыла, але думку адагнала, бо адкуль вы тут?.. Ой, мілае заўсёды ў вачах стаіць!.. Раз у ноч пасхальную здалася мне чупрына Мішкава — яна ж заўсёды перада мною — але я з'явы пералякалася, вобраз жывы адагнала... А ў Лодзі, на кані, цяпер у поездзе гэта ваш унук, Колюсь, кажаце?.. Скажыце — а Мішкавы ногі? З малой уладай?.. Рукі як? Левая слабая? Грудзі былі цэлы, і галава?.. Касю на Корсіцы пахавалі... Дзе цёця Наташа і дзядзя Вася? У Кальві? Дзе і самі жывяце, каб усім там быць разам? Жывіце шчасліва, цёця... І я шчаслівa, што вас знайшла!.. Часам прыеду ў Глоўна, у цемрыве прайдуся... Не клічце на мяне паліцыю...

За каторымсьці разам каля брамкі Соньку чакала бабка Іваніха.

— Заходзь, смела, Мішка і Колюсь ведаюць... Мы хутка на Корсіку вяртаемся, там у нас з Мішкай дом цяпер, Наташыны ўнукі нам дапамагаюць, Колюсю-Нікалятку ва ўніверсітэт трэба будзе, мы яго, бо бліжэй да нас, у Жэневу паслалі... А мы тут у Касінага брата ў Глоўна затрымліваемся, у пушчу нашу не ездзім... Ну, будзе, ідзем, колькі дзён усе чакаюць!..

# http://muz.hhos.ru




Моладзевая музыка — гэта асобны пласт культуры, які ў многім дазваляе зразумець погляды пакалення, што толькі ўваходзіць у дарослае жыццё. Звычайна гэта музыка больш дынамічная, жвавая, і нават агрэсіўная, то-бок такая, як па сутнасці моладзь. Прычым гэтая асаблівасць уласціва практычна ўсім народам Еўропы, і беларусы тут не выключэнне. Вось сайт „Беларуская музыка”, што месціцца па адрасе http://muz.hhos.ru, арыентаваны менавіта на тое, каб прадставіць сферу музычных зацікаўленняў маладых беларусаў.

Калі цікаўны карыстальнік зазірне на даны сайт, то яму можа падацца, што сайт зусім неінфарматыўны. Але неінфарматыўны ён толькі для тых, хто не надта абазнаны ў беларускай рок-музыцы. Для тых, хто крыху ведае музычныя зацікаўленні моладзі, якая разумее па-беларуску, будуць знаёмы такія гурты, як „Босае сонца”, „Мутнае вока”, „Pomidor/Off”, „Clover Club” і гэтак далей. Выявы новых CD-дыскаў гэтых ды іншых гуртоў размешчаны на галоўнай старонцы сайта. Калі клікнуць на назву пласцінкі, то нам з'явіцца пералік размешчаных на ёй песень, якія можна тут жа праслухаць.

Выйсці на рубрыкі сайта месціцца як з левага боку цэлага выяўлення, так і зверху. Тыя, што злева, падзяляюць музычныя кампазіцыі па стылях — „Рок-музыка”, „Хард-рок”, „Рэп-музыка”. Ёсць там і нейкая „Астатняя музыка”, дзе месціцца ўсяго толькі два альбомы, якія, на думку ўладальнікаў сайта, не пасуюць ні да якой вышэйазначанай рубрыкі.

Назвы старонак „Відэа”, „Кліпы”, „Акорды” гавораць самі за сябе. Усе яны змяшчаюць відэафайлы выступленняў разнастайных груп ці то паасобку, ці то з іншымі выканаўцамі.

Даволі інфарматыўнай падаецца рубрыка „Тэксты і акорды”. Калі на яе клікнуць, то трапляеш на зусім іншы сайт, што мае назву „Lyrics from Belarus / Беларускія тэксты і акорды”. Акрамя таго, што там месціцца вялікі пералік беларускіх рок-гуртоў, там таксама даюцца звесткі пра „Беларускую музыку”. „У нас з'явіліся браты па зброі! Сайт цалкам прысвечаны беларускай музыцы. Там можна праслухаць і спампаваць шматлікія песні, альбомы і г.д.”, — пішуць „музычныя браты” ў паведамленні ад 4 мая.

Калі вярнуцца на папярэдні сайт, то далей у пераліку рубрык ідзе адна з найцікавейшых — „Афіша”. Адтуль віртуальны наведвальнік даведаецца аб разнастайных імпрэзах, выступленнях і канцэртах, што запланаваныя на бліжэйшы час. Уладальнікі сайта не здымаюць папярэдніх абвестак, таму можна пазнаёміцца і з тымі выступленнямі беларускіх рок-гуртоў, што адбыліся раней.

Дарэчы, сайт „Беларуская музыка” інтэрактыўны. Наведвальнікі могуць пакідаць свае каментары практычна да кожнага там размешчанага паведамлення. Праўда, каб займець такое права, трэба прайсці рэгістрацыю, якая месціцца ў правым верхнім вугле.

Уладальнікі сайта сябе не называюць, але патрабуюць ад тых, хто захоча прыняць удзел у каментаванні, выконваць спецыяльныя правілы. Выйсце на старонку „Правілы” знаходзіцца пад агульнай назвай уверсе цэлага выяўлення. Сярод забарон — паведамленні, якія не адносяцца да зместу артыкула або да кантэксту абмеркавання; абраза і пагрозы ў адрас наведвальнікаў сайта; выразы, якія змяшчаюць ненарматыўную лексіку, якія прыніжаюць чалавечую годнасць, распальваюць міжнацыянальную варожасць.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з Календара

Збіральнік рукапісаў

# 180 гадоў з дня нараджэння Аляксандра Ельскага



Беларускі краязнавец, гісторык, літаратар, этнограф, публіцыст Аляксандр Ельскі нарадзіўся 16 чэрвеня 1834 года ў вёсцы Дудзічы Ігуменскага павета (цяпер Пухавіцкі раён Мінскай вобласці). Быў прадстаўніком шляхецкага роду гербу „Пелеш”. Яго бацька, Караль Ельскі, уладальнік маёнткаў Дудзічы і Замосце, быў скрыпачом-аматарам, атрымаў у свой час прафесійную падрыхтоўку ў вядомых музыкантаў.

Пачатковую адукацыю Ельскі атрымаў у гімназіі ў Лаздэне (Усходняя Прусія), пасля скончыў гімназію ў Мінску. Служыў у войску, браў удзел у Крымскай вайне. Пазней працаваў міравым суддзёй. Каля 1850 года пабраўся шлюбам з Аленай Калячынскай, з якой меў дачку Аляксандру Банавентуру і сына Яна.

Аляксандр Ельскі — адзін з першых гісторыкаў беларускай літаратуры і збіральнікаў беларускіх рукапісаў. У 1864 годзе ў сваім маёнтку Замосце ён стварыў прыватны краязнаўчы музей, у фондах якога было каля 7 тысяч кніжак, 20 тысяч рукапісаў, больш за тысячу гравюр, калекцыя карцін, зборы манет, медалёў, прадметаў археалагічных знаходак. Быў біёграфам і сябрам Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, ад якога прыняў частку архіва, перапісваўся з Францішкам Багушэвічам і іншымі беларускімі пісьменнікамі. Сам пісаў пад псеўданімамі Бацян з-над Пціч, Літвін-грамадзянін. Літаратурна-публіцыстычная дзейнасць Ельскага пачалася з допісаў у газету „Віленскі веснік” прысвечаных пераважна вызваленню сялян ад прыгону. Пісаў на беларускай, польскай і расійскай мовах, добра ведаў французскую і нямецкую.

Даследаваў гісторыю, этнаграфію, фальклор, мову і літаратуру Беларусі. Напісаў каля 10 тысяч гістарычна-краязнаўчых артыкулаў для „Геаграфічнага слоўніка Каралеўства Польскага і іншых славянскіх краёў”, „Вялікай усеагульнай ілюстраванай энцыклапедыі”. Апісаў мясцовасці амаль усіх беларускіх паветаў, дзе называў мясцовыя гарадзішчы, курганы, замчышчы, земляныя валы.

Выдаў зборнік „100 прыказак, загадак, прыдумак і гавэндаў для пажытку беларускага (крывіцкага) народу” (1908). Аўтар цікавых прац, між іншым, „Піва і варэнне піва ў нашым мінулым”, „Пра беларускую гаворку”, „Адам Міцкевіч на Беларусі”. Пісаў у жанры дыдактычных вершаваных і празаічных гутарак на беларускай мове ў духу асветніцтва і хрысціянскай маралі. На беларускую мову пераклаў першую частку паэмы Міцкевіча „Пан Тадэвуш”, асобныя ягоныя вершы, кнігу польскага эканаміста Юзафа Супінскага.

Пасля паўстання 1863 года Ельскі апынуўся ў цяжкім матэрыяльным становішчы, таму змушаны быў распрадаваць сваю вялікую калекцыю, у тым ліку звыш 2 тыс. гравюр, эскізаў і малюнкаў галандскіх, англійскіх, польскіх і айчынных мастакоў, каля 60 карцін, бібліятэку з 10 тыс. кніг, сярод іх старадрукі XVII ст., хронікі, матэрыялы паўстанняў і вайны 1812 года, лісты Міцкевіча і Касцюшкі, а таксама іх асабістыя рэчы, каштоўныя калекцыі фарфору, шкла, слуцкіх паясоў, каля 20 тыс. аўтографаў і дакументаў.

Памёр Ельскі 10 верасня 1916 года ў Замосці, пахаваны ў Дудзічах ва ўрочышчы Кобань у месцы сямейных пахаванняў. Яго зборы апынуліся ў Кракаве, Варшаве, часткова — у Мінску і Вільні. Значная частка іх была страчана.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Каштоўная інвестыцыя ...

13 чэрвеня ў Гмінным асяродку культуры ў Чаромсе адбылася канферэнцыя па выніках праекта „Перабудова гмінных дарог: вул. Грунтовай, Польнай, Голэмбяй, Круткай, Падлесьнай, адрэзка вул. Спартовай і Сасновай у Чаромсе Чаромхаўскай гміны". І хоць мерапрыемства лічылася лакальнай імпрэзай, запрошаны былі прадстаўнікі ваяводскіх і павятовых улад у асобах Евы Стаховіч — намесніцы дырэктара Аддзялення інфраструктуры Падляшскай ваяводскай управы, гайнаўскага старосты Уладзіміра Пятрочука, старшынь Рады павета Мікалая Міхалюка і Рады гміны Надзеі Сулімы, павятовага інспектара будаўнічага нагляду Яўгена Каліноўскага, каменданта Пагранічнай аховы ў Чаромсе маёра Анджэя Канončука і кіраўніка пастарунка Паліцыі аспіранта Рафала Пашко, дэкана Кляшчэлеўскага дэканата а. мітрата Мікалая Келбашэўскага і настаяцеля Зубачоўскага прыхода а. Рыгора Астапковіча, начальнага дырэктара Дарожна-маставога прадпрыемства „Максбуд" з сябзібай у Бельску-Падляшскім Яна Мінюка. Прысутнічалі радныя і солтысы Чаромхаўскай гміны, прадстаўнікі лясніцтва, кіраўнікі службовых адзінак гміннай управы, шматлікае кола гімназістаў з апекунамі Ірэнай Шатыловіч і Аннай Смык, прадстаўнікі СМІ ды жыхары пасёлка.

Стаяла хмурна-ветранае надвор'е. Афіцыйная частка ўрачыстага перарэзання стужкі назначалася на 14:00 на скрыжаванні вуліц Грунтовай і Польнай. Але „пакаўзнулася" на паўгадзіны. Прычына — гайнаўскі староста і брыгада тэлебачання не змаглі трапіць на месца ўрачыстасці, паколькі знаходзілася яно на ўскраіне пасёлка.

Перш-наперш войт Юры Шыкула прывітаў гасцей і публіку, затым пазнаёміў з рэалізацыяй праекта і падзякаваў усім, хто ўдзельнічаў у яго рэалізацыі.

У тым часе з хмурнага неба сыпнуў дождж. Не зважаючы на гэта, публіка не разыходзілася. Імпрэза працягвалася. Адны скрыліся пад раскідзістымі кронамі дрэў, іншыя пад парасонамі. З кароткімі прамовамі выступілі дырэктар Ева Стаховіч, староста Уладзімір Пятрочук ды старшыня Мікалай Міхалюк.

— Неўзабаве будзе здадзены ў карыстанне суперсучасны пагранпераход міжнароднага маштабу Полаўцы — Пяшчатка, — гаварыла дырэктар Ева Стаховіч. — Чаромха будзе першай еўрасаюзнай гмінай у Шэнгенскай зоне для замежных турыстаў з-за ўсходняй мяжы. Варта задбаць аб сваю візітную картачку. Для Чаромхі гэта шанц на прагрэс у будучыні.



Справа: Ю. Шыкула, У. Пятрочук, М. Келбашэўскі, Я. Мінюк, Е. Стаховіч, М. Міхалюк, Г. Васілюк

Старшыня Рады гміны Надзея Суліма падзякавала спадарыні дырэктар і гайнаўскаму старосту за падтрымку праекта ды выказала спадзяванне на далейшае супрацоўніцтва ў карысць чаромхаўскай супольнасці. Святары адслужылі малебен, затым здзейснілі чын пасвячэння дарогі. Калектыў „Гілочка" пад кіраўніцтвам Ірэны Вішанка выканаў традыцыйнае „Многае лета". Затым арганізатары запрасілі гасцей у Гмінны цэнтр культуры на мультымедыйную канферэнцыю.

Дакладчыкам выступіў намеснік войта Ірыней Леанюк, які заявіў:

— Праектам займаюся ад пачатку, можна сказаць, лічуся яго бацькам. Мэтай праекта было паляпшэнне гміннай дарожнай інфраструктуры, стварэнне непасрэднага спалучэння з павятовымі дарогамі і краёвай дарогай № 66, паляпшэнне сацыяльных умоў жыцця для жыхароў гміны. (...) Выканаўцам задачы было дарожна-маставое прадпрыемства „Максбуд". Задача рашалася ў тэрміне 12 жніўня — 14 лістапада 2013 года. У выніку перабудавана было 3 367,25 метра дарог вартасцю ў 3 185 473,90 зл.

Пасля мультымедыйнай часткі канферэнцыі ў мастацкай частцы выступіў калектыў „Гілочка", які выканаў некалькі даўніх песень з рэпертуару нашых бабулек. Юных артыстаў арганізатар абдараваў ласункамі. Канферэнцыя закончылася супольным пачастункам і чаркай шампанскага. Шведскі стол быў багата застаўлены пячэннем, фруктамі, напіткамі, рознага віду мяснымі вырабамі і... фаршыраваным шчупаком.

Тэкст і фота Уладзіміра СІДАРУКА




## Выпадак

Аб бравурнай яздзе каскадзёраў на вуліцы ў Кузаве пісала „Ніва" няраз. Тычылася гэта як матацыклістаў, так і аўтамабільных шафёраў. У вёсцы — некалькі крутых паваротаў, якія ствараюць пагрозу дарожнай аварыі. Першы — паварот за рэчкай з боку Чаромхі-Станцыі паміж сядзібамі спадарства Найбукаў і Міхася Канарэўскага, другі — на вышыні забудовы пакойнага Сяргея Рэпкі. На гэтым апошнім павароце не адзін „смяльчак" апынуўся на гаспадарскай агародджы (едучы ад царквы ў напрамку Чаромхі). Дагэтуль не было ахвяр у людзях. Пацярпелым заставаўся адно гаспадар, які вымушаны быў рамантаваць плот.

У нядзелю, 15 чэрвеня ў перадабедні час, здарыўся ў гэтым месцы выпадак. На легкавым аўтамабілі падарожнічала сям'я з трох чалавек з Чаромхі-Станцы. Празмерная хуткасць на крутым павароце аказалася трагічнай у выніку — паламаны аўтамабіль адвезлі на эвакуатары, жанчыну забрала хуткая дапамога. Расследаванне вядзе паліцыя. Вось да чаго прыводзіць легкадумнасць шафёраў!

(ус)

# Адгаданка

### Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. нясе воды Масквы ў Волгу = 2 _ 14 _ 15 _;
2. вялікая драпежная марская рыба = 30 _ 31 _ 32 _ 6 _ 7 _;
3. аснова, фундамент = 16 _ 20 _ 25__ 21 _;
4. інданезійская выспа між Явай і Ламбокам = 22 _ 23 _ 26 _ 27 _ ;
5. Мікалай, савецкі фізік, лаўрэат Нобелеўскай прэміі 1964 года = 12 _ 13 _ 10 _ 11 _ 28 _;
6. дванаццаціна года = 4 _ 5 _ 3 _ 24 _ 29 _;
7. высушаная кармавая трава = 33 _ 35 _ 1 _34 _;
8. рад = 19 _ 18 _ 17 _ 9 _ 8 _.

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | 1 | 2 |
| | | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
| | | | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 |
| | | | | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 |
| | | | | | | | | 21 |
| 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 |
| | | | | 31 | 32 | 33 | 34 | 35 |

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 21 нумара**

Асёл, ёд, Зан, Зеўс, пуць, рыжык, удаў.

Рашэнне: **Не заўсёды слёзы праўду кажуць**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў і **Міхалу Байко** з Беластока.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уля Шубзда, Мірослава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy" w 2014 roku — 52.
**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

# 22.06 — 28.06

**(22.03. — 20.04.)** Дай сабе трохі адпачынку. Настрой ненайлепшы, бо можаш даверыць асобе, якая не заслугоўвае даверу, плеткару. Выбярыся за горад. 23-27.06., калі хочаш над усім запанаваць,запаволь тэмп. Хаця могуць перад табою адкрыцца магчымасці, якія дадуць табе пачуццё здзяйснення і самарэалізацыі, а прынамсі бяспекі.

**(21.04. — 21.05.)** Добры час на адпачынак, парадышку. Новае каханне можа паявіцца хутчэй, чым думаеш. Але добра пачатае знаёмства можа рaптам страціць імпэт. Тармазі свой апетыт (перайдзі на макрабіятычную дыету). Сустрэнеш добрых людзей, якія памогуць табе ў цяжкіх справах. Разлічвай на ўдачы, дзякуючы якім ўдадуцца твае прафесійныя справы.

**(22.05. — 22.06.)** Кепскі ўплыў апазіцыі Марса з Уранам (23-27.06.) прадвяшчае ўсё што найгоршае! Ды спакойна — думай рацыянальна! Зможаш перакаваць паразы ў поспех! Бывала горш! Калі на гэтым тыдні куды-небудзь спознішся, будзь гатовы да таго, што ў самы бліжэйшы час у цябе папросяць грошай у пазыку.

**(23.06. — 23.07.)** Дбай аб дэталі, ідзі проста да мэты. Здабудзеш прыхільнасць людзей дагэтуль непрыхільных табе. Досыць цяжкая атмасфера дома. Мноства спраў, якія цяжка будзе ахапіць. Некаторыя абвінавацяць цябе ў нахабнасці. Не павучай! Будзь асцярожным у калькуляцыях.

**(24.07. — 23.08.)** 25-29.06. выкажашся спрытам. Моцная воля ў спалучэнні з добрай арганізаванасцю дазволіць табе дасягнуць таго чаго хочаш. Добра жыві з людзьмі, не ўлазь нікому ў яго справы, але і не дай, каб забралі табе тое, што належнае. Размаўляй з іншымі без злаславасці і агрэсіі, бо з-за гэтага не будзеш мець саюзнікаў, а яны табе цяпер вельмі патрэбныя.

**(24.08. — 23.09.)** 26-30.06. натрапіш на непаўторны шанц, які дазволіць апынуцца табе ў адпаведным часе і ў трапным месцы. Чакае цябе таксама невыпадковая сустрэча. У сужонстве выявіцца дробная мана, зловіш партнёра на чымсьці сарамлівым. На працы шторaз лепш, будзеш творчы, будуць табою захапляцца, цаніць цябе.

**(24.09. — 23.10.)** Смела паставішся перад цяжкасцямі, варта — прынясе гэта поспех. У апошнім тыдні чэрвеня адкрыюцца перад табою новыя магчымасці ў кампанейскім і любоўным жыцці. Добрая забава, паразуменне з людзьмі, з якімі цяжка табе было дагаварыцца. У здароўі чэрпай з натуры.

**(24.10. — 22.11.)** 25-29.06. рашыш важную загадку. Сярод сяброў ці радні даведаешся, хто да цябе варожа пастаўлены або страціш да кагосьці давер. Старая сямейная праблема можа стаць актуальнай. Моцны стрэс і псіхічная стома могуць давесці да крызісу і паслаблення імунітэту арганізму. Але не адпусціш, нават калі будзеш стомлены і прыглушаны. Але нервы могуць табе пусціць, можаш зрабіць штосьці, чаго па табе ніхто не спадзяецца.

**(23.11. — 22.12.)** 21-25.06. прадбачваюцца клопаты і рызыкоўныя сітуацыі. Можаш кімсьці моцна захапіцца (яго красой), што не ўбачыш яго заган. А ў сужонствах усё прыгожа, але першынство аддай партнёру. 23-27.06. гуляй да ўпаду, сарганізуй прыём для сяброў, пра які будуць доўга памятаць! Але дбай аб свае ныркі. Не інвестуй і не бяры пазык.

**(23.12. — 20.01.)** У гэтым тыдні прымеш стратэгічныя рашэнні, пакажаш свой розум, рацыяналізатарства. Сонца засвеціць табе і ў пачуццях! Выберыся хоць на тыдзень у адпачынак.

**(21.01. — 19.02.)** Парабі лекарскія абследаванні. Хавайся ад сляпучага сонца. Схадзі да кардыёлага. Добра ідучыя справы могуць пайсці некарысна; не будзь самаўпэўненым. З 27.06. пашкадуеш сваёй распусты.

**(20.02. — 21.03.)** Будзеш упэўнены ў пачуццях. Паверыш, што заслугоўваеш на дабро, якое атрымліваеш. 23-27.06. не стаў усяго на адну карту, бо ўсё можаш страціць. Не дзейнічай імпульсіўна, а ў выпадку сумненняў парайся ў кагосьці вопытнага. 26-29.06. можаш пачаць рэалізацыю праектаў, звязаных з падарожжамі. Даведаешся чагосьці, над чым раней і не падумаў.

Агата АРЛЯНСКАЯ



# У Злотніках разбуджаецца жыццё

**— Паглядзі, якія тут прылюдныя людзі! — шэпча мне на вуха Ірына. Я сама стаю перад блакітнай каплічкай і гляджу на старасту, які даглядае ахвярныя свечкі. Людзі паўтыкалі іх у скрыначкі з белым пяском. А яны як на злосць; запаліш — міг пагараць і гаснуць на ветры. За шашой, па якой безупынна імчаць машыны, шаўковыя нівы. Зялёнае збожжа калышацца, лунае на ветры. Нервовасць паветра на міг лагаднее, зноў перамагае спакой.**

Стараста Яўгеній Шмыга аднова запальвае пагаслыя свечкі. Здаецца, яго спакой і малітоўныя спевы харыстаў адганяюць парывісты вецер ад месца. Калі пагасае ахвярная свечка, народ хвалюецца, бачыць у гэтым дрэнны знак. Таму падтрымаць агонь дапамагаюць іншыя...

Малітва перад раскрытай вясковай каплічкай, сярод вясновай прыроды дзейнічае гаючa. Перад прычасцем бацюшка Раман Кішыцкі спавядае знямоглую бабулю. Старажылку пасадзяць на пластмасавае крэсла каля каплічкі.

— Як блізка тут побач сябе людзі і святчэннік, — шапчу на вуха Ірыне.

Яшчэ больш уразіць вынаходлівасць старасты. У час змагання з ветрам ён прыдумае спосаб. Пазбірае пагаслыя свечкі ў пучкі, паставіць у скрыначку з пяском і яшчэ раз запаліць іх. А яны, быццам паходні, на радасць народу роўна згараць датла. Аж ад іх імпэту лопнуць шкляныя сценкі і сплыве на зямлю воск. Усё завершыцца ў добрым часе, якраз на канец літургіі. За момант усе пойдзем у вёску Злотнікі, каб асвяціць дамы і бласлявіць сем'і.

* * *

У Злотнікі, 14 чэрвеня, на вясковыя „абыходы", з'ехаліся малядыя і старыя. Прыехаў моладзевы хор з Беластока па кіраўніцтвам Марты Філіманюк.

— Адзін наш сябра-харыст з гэтай вёскі, таму мы адгукнуліся на яго запрашэнне і прыехалі дапамагчы, паспяваць, — кажа маладзенькая рэгентка. Штодзень спяваюць у беластоцкім саборы і ў царкве св. Юр'я. Таму бацюшка Раман прыгожа ім падзякуе: „Мы шчаслівы, што свята аздобіў архірэйскі хор".

Харысты засталіся на абходы і аж ахрыплі ад спеву, бо свята цягнулася за тры гадзіны. Спачатку ўсе накіраваліся да шыкоўнага двара... Яго гаспадаром аказаўся сын царкоўнага старасты. Калі ў дарозе я назвала нашу газету, Яўгеній Шмыга радасна заявіў:

— Усё ведаю. Я чытач „Нівы".

Мой субяседнік адзіны на ўсю вёску земляроб.

— Такі, што то яшчэ плаціць узносы ў КРУС... — кажа.

Спецыяльнасцю гаспадаркі Яўгенія Шмыгі з'яўляецца гародніна і зерневыя культуры. Іх вёска сваім характарам напамінае ўжо прыгарадскі спальны квартал. Апусцелыя месцы насяляюць малядыя сем'і з Беластока. Дзякуючы навасельцам ажыла іх парафія ў Кажанах. Зараз у час кожнай літургіі прычашчаюць дзяцей. А раней гэтага не было. Вёска вымірала, а цяпер, слава Богу, аднаўляецца. Становіцца на ногі, ажывае, падае свой голас...

— Калі прыйшоў да нас новы бацюшка, кожная нядзеля для нас як адпуст, — кажа пра айца Рамана Кішыцкага Яўгеній Шмыга.

У дарозе гаворым пра гісторыю вёскі, але пра гэта мой субяседнік раіць распытаць яшчэ солтыса:

— Бо ён мясцовы і ведае як тут жылі з дзеда прадзеда. А я родам з Боўтрык, з тых, што то затапілі пад Семяноўскім залівам.

У Злотнікі Яўгеній Шмыга прыйшоў за жонкай.

* * *

Солтыс Злотнікаў Юзаф Ярашук ішоў з харугвамі ў вясковай працэсіі. Яго выручылі аднавяскоўцы, каб расказаў гісторыю сённяшняга святкавання. Пра гэта даведаўся ён ад свайго дзеда.

— Дзед якраз пасвіў валоў у Лужках. Надышла чорная хмара, з дня ноч зрабілася і пайшоў такі вялікі град, што нагі не было дзе паставіць. Дзед сабраў валоў і прыгнаў дадому. Потым паехалі ў Сураж, прывезлі бацюшку і адправілі набажэнства. А каплічка была збудавана ў 1894 годзе. Пабудаваў яе ўласнаручна Іаахім Войцюк на полі ў свайго швагра Уладыслава Войцюка. Яго сын быў хваравіты і ён прынёс такую ахвяру. Каплічка стала пры трактавай дарозе. Калі ў 1953 годзе праклалі шашу, яна апынулася на іншым баку дарогі. У ёй захавалася фігура св. Яна. Людзі не ведаюць адкуль яна ўзялася і каго яна дакладна прадстаўляе — ці Яна Златавуста ці можа Яна Непамука. Пра два варыянты культу гавораць гістарычныя крыніцы часоў царкоўнай уніі. Праўдападобна культ Іаана Хрысціцеля прыпісалі месцу пасля скасавання уніі, — мяркуе солтыс.

Вера ў заступніцтва св. Яна ўзмацнілася ў час апошняй вайны. Калі набліжаўся фронт, жыхары вёскі Войцюк Клім, Саевіч Вольга і каталічка Марцэля Сухаверская з крыжам і іконай абышлі кругом вёску. Вёска захавалася. І калі ўвайшлі саветы, то адзін іх лейтэнант сказаў: „Эта деревня наверно крестом обведена!". Так атрымалася, што нікому нічога не сталася, ацалелі будынкі. З таго моманту, ужо семдзесят гадоў, 26 чэрвеня ў вёсцы служаць малебен і паніхіду за памерлых. З гэтага года набажэнства будуць адпраўляць яшчэ 7 ліпеня, на Яна. Цікава, што ахоўную моц святога Яна мясцовыя людзі лічылі абярэгам ад прыродных стыхій: граду, ураганаў, маланак і перуноў. Пра яшчэ адзін цуд, які прыпісваюць месцу, расказвалі ў сям'і Юзафа Ярашука.

— Раз мой дзедка працаваў у стадоле. І бачыць — *нядобрыідзе!* Значыць, па-сучаснаму — смерч, набліжаўся. Ён перажагнаўся і думае, што то будзе. Давай прасіць аховы святога Яна. І тое *злое* заврнулася на Растаўскім кургане, на Бельск павярнула. Тры вёскі па дарозе разабрала...

*(працяг будзе)*

**Фота і тэкст Ганны КАНДРАЦЮК**









ISSN 0546-1960